15 лютага 2019 | № 6 (617)

Выдаецца з сакавіка 2002 года

# Новы час

**Веймар наша ўсё!**
**Стар. 9**

novychas.by

АГУЛЬНАПАЛІТЫЧНАЯ ШТОТЫДНЁВАЯ ГАЗЕТА

ISSN 2218-2144

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ



# Трагедыя ў Стоўбцах як вырак сістэме

Сяргей ПУЛЬША

**Увесь тыдзень краіна жыве ў роспачы — з-за трагедыі ў Стоўбцах. Там падлетак прыйшоў у школу з нажом і забіў настаўніцу і вучня. Яшчэ двое былі паранены.**

Кажуць, што міліцыя адрэагавала аператыўна — прыбыла на месца праз тры хвіліны пасля выкліку. Але нападніка ўсё роўна давялося шукаць па горадзе. Ён быў затрыманы.

На месца здарэння прыбылі старшыня Следчага камітэта Іван Наскевіч і міністр аховы здароўя Валер Малашка. Таксама ля школы 11 лютага быў старшыня Стаўбцоўскага райвыканкаму Дзяніс Калясень. Ён наведаў сем'і загінулых і пацярпелых, а таксама прыняў рашэнне аказаць матэрыяльную дапамогу: сем'ям, у якіх ёсць загінулыя, выдаткаваць па 400 базавых велічынь (10200 рублёў), сем'ям пацярпелых — па 200 базавых велічынь (5100 рублёў). Будуць адкрытыя дабрачынныя рахункі ў «Беларусбанку», куды прадпрыемствы і жыхары раёна змогуць пералічыць сваю дапамогу.

Не заўважылі ля стаўбцоўскай школы толькі міністра адукацыі Ігар Карпенку. Яго прэс-сакратарка паведаміла «Радыё Свабода», што міністр не паехаў туды, паколькі там вядуцца следчыя дзеянні. «Што там будзе рабіць міністр у гэты час?» — сказала яна. А выказаць асабіста спачуванні родным загінулых? А наведаць пацярпелых вучняў, хай і ў рэанімацыі? Ну, хаця б паабяцаць, што «мы зробім усё, каб такое не паўтарылася».

Прэс-сакратарка Карпенкі сказала, што міністр, можа быць, «наведае школу пазней». Але каму ён там патрэбны — пазней?

Дарэчы, на сайце Міністэрства адукацыі ў раздзеле «навіны» па стане на сярэдзіну дня 12 лютага (прайшло паўтара сутак пасля трагедыі) — навіна пра выніку «Снежнага снайпера» і пра тое, што «Глабальныя пытанні лічбавай трансфармацыі абмяркоўваюцца ў Дубаі». Ніводнага спачувальнага слова па падзеях у Стоўбцах!

Лукашэнка з нагоды трагедыі заявіў, што «вінаватыя мы ўсе» (значыць, ніхто, як у трагедыі на Нямізе). «У нас у школах бардак, поўны бардак. Ніколі такога не было», — абурыўся кіраўнік дзяржавы, і, як заўсёды, загадаў навесці «парадак і жалезную дысцыпліну». Але, нягледзячы на сапраўды жудасны выпадак, у краіне не была абвешчаная хоць нейкая жалоба. Бачна, у нашага кіраўніцтва шмат розных інтарэсаў — апроч жыцця дзяцей і настаўнікаў.

Гэта ўжо не першы выпадак нападу школьнікаў на сваіх сяброў і настаўнікаў у школе і не ў школе. Напрыклад, узгадаем «справу Казакевіча», які 8 кастрычніка 2016 года ўвайшоў у гандлёвы цэнтр «Еўропа» з сякерай і бензапілой і забіў жанчыну. Казакевічу было 17 гадоў на той момант. Ён вучыўся ў МІТСО, прыходзіў з бензапілой і туды, але сышоў ні з чым — апарат не завёўся. Шчаслівы выпадак!

«Магчыма, ён знаходзіўся пад уздзеяннем псіхатропаў», — казалі пра Казакевіча. Тая ж версія — псіхатропы — усплыла і ў трагедыі ў Стоўбцах. Але, спадарства, мы перасаджалі багата народу, пераважна моладзі, па сумнавядомым 328-м «антынаркаманскім» артыкуле, жорстка каралі за труху марыхуаны, за паўтаблеткі лекаў — а псіхатропы ў краіне ўсё не заканчваюцца. Можа, варта звярнуць увагу на тое, адкуль і як яны трапляюць у краіну, а не паляваць на моладзь, якая цягнецца да ўсяго забароненага? Можа быць, больш высілкаў надаць прафілактыцы наркаманіі, а не чакаць, пакуль маладзён нешта недзе паспрабуе, а потым хапаць яго «цёпленькім»?



Фота www.tut.by

> **Як пры такой колькасці асобаў, якія павінны займацца выхаваннем моладзі, у нас з'яўляюцца тыя, хто ідзе забіваць?**

У нас велічэзная армія тых, хто павінен займацца выхаваннем моладзі — ідэолагаў. У нас зашкальвае колькасць кантралюючых органаў, якія адсочваюць «сацыяльна небяспечныя сем'і». Яны спрабавалі паставіць на ўлік «сацыяльна небяспечных» сям'ю з чацвярымі дзецьмі з-за таго, што сям'я даглядала хворага сабаку. Шмат падобных выпадкаў, калі з-за дробязяў у бацькоў адбіралі дзяцей. Я не кажу ўжо пра БРСМ, на які з бюджэту штогод выдаткоўваюцца шалёныя грошы, і які, паводле статуту, павінен займацца «стварэннем умоў для ўсебаковага развіцця моладзі, раскрыцця яе творчага патэнцыялу».

Як пры такой колькасці асобаў, якія павінны займацца выхаваннем моладзі, у нас з'яўляюцца тыя, хто бярэ нож, сякеру, бензапілу і ідзе забіваць?

Нельга наракаць на настаўнікаў, таму што, акрамя адукацыі, ім трэба запаўняць тоны розных, часцяком непатрэбных папераў, справаздачаў, планаў і гэтак далей. У іх проста няма часу адсочваць усё і ўсіх. Кепска выхавалі бацькі? Наўрад ці. Нападніка ў Стоўбцах усе характарызуюць як ціхага, спакойнага, добрага чалавека...

Думаю, як заўсёды, вінаватым застанецца вялікі і бязлікі інтэрнэт. Маўляў, гэта яго ўплыў разбэсціў хлопчыка, наглядзеўся ён там нечага такога... Але гэта ўсё адно не адмяняе пытання: дзе была безліч «настаўнікаў і выхавацеляў» з арміі ідэолагаў і БРСМу, якія, па ідэі, павінны былі заняць падлетка «сеяннем разумнага, добрага, вечнага»?

Можа, спадары ідэолагі, кантралёры, БРСМ, барацьбіты з наркотыкамі з сілавых структур урэшце зоймуцца рэальнай справай? Каб «ціхія, спакойныя хлопчыкі» не пératвараліся ў забойцаў...

# Іду на «Вы»

Сяргей ПУЛЬША

**Няведанне правілаў беларускай арфаграфіі і адна літара маглі каштаваць Следчаму камітэту Беларусі 80 тысяч долараў.**

Аляксандр Міхайлаў, які жыве ў Рызе, незадаволены адказамі Цэнтральнага апарата Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь у рамках афіцыйнай перапіскі па крымінальнай справе. На яго думку, да яго была прынятая зняважлівая, абразлівая і непрымальная форма звароту.

Сутнасць у тым, што СК звяртаецца да Міхайлава на «вы» з маленькай літары.

Між тым, згодна з афіцыйна зацверджанымі правіламі беларускай арфаграфіі і пунктуацыі, у афіцыйнай перапісцы ўжываецца асабовы займеннік «Вы» як форма ветлівага звароту да адной асобы, які пішацца з вялікай літары. З маленькай літары ўказаныя займеннікі пішуцца пры звароце да некалькіх асоб.

Як піша Міхайлаў у іску, «у адказе Цэнтральнага апарата Следчага камітэта ад 18.10.2018 N0 М-4279 на зварот Міхайлава А.М. аб прадстаўленні інфармацыі аб унесеных папраўках у працэсуальныя дакументы звароты да мяне напісаны з ужываннем займенніка «вы» і вытворных ад яго з маленькай літары, што не адпавядае патрабаванням правіл. Тым жа часам адказ Цэнтральнага апарата Следчага камітэта ад 18.10.2018 № Б-4377, які накіраваны ў бок абаронцы Міхайлава А.М. — адваката Брагінца В.Ф., — не ўтрымлівае звароту з маленькай літары. Звароты ў тэксце названага адказу напісаны з ужываннем займенніка «Вы» з вялікай літары».

Улічваючы тое, што абодва адказы былі складзены адной асобай, Міхайлаў разглядае такое стаўленне да сябе як абразу гонару і годнасці. «Зняважлівае звяртанне да Пазоўніка ўрадавых асобаў Цэнтральнага апарата Следчага камітэта спрыяла ўзнікненню маральных пакут, якія выяўляюцца ў адчуваннях страху, сораму і знявагі». І спадар Міхайлаў падаў у суд на Цэнтральны апарат СК (ад яго імя вядзецца перапіска) пазоў аб абароне гонару і годнасці. Памер маральнай шкоды ён ацаніў у 160 482 беларускіх рубля.

З аднаго боку, сітуацыя ў нечым камічная — з-за адной літары патрабаваць маральную кампенсацыю ў 80 тысяч долараў. З іншага боку — гэта мы тут, у Беларусі, звыкліся са зняважлівым стаўленнем чыноўнікаў і не звяртаем увагі на такія дробязі. А Аляксандр Міхайлаў жыве ў Рызе, і яму павага да яго ў афіцыйнай перапісцы — прынцыповая.

Міхайлаў звярнуўся ў Міжнародную федэрацыю незалежных экспертаў. Вывучыўшы беларускія законы, эксперты зазначаюць, што зварот да асобы на «Вы» з вялікай літары «не з'яўляецца формай эпісталярнага этыкету — ён замацаваны ў заканадаўстве Беларусі». І таму «шматразовае парушэнне правіла арфаграфіі, выкладзенага ў Законе Рэспублікі Беларусь ад 23.07.2008, мае дэманстратыўна зневажальны характар і яўна мае за мэту знявагу асобы атрымальніка ліста».

Працэс праходзіў у судзе Партызанскага раёна Мінска. Прадстаўніком інтарэсаў Міхайлава быў адвакат Сяргей Зікрацкі. «Якім бы незвычайным гэты пазоў ні быў, але заканадаўства прадугледжвае кампенсацыю маральнай шкоды. І ў дадзеным выпадку тэарэтычна абсалютна магчымы выйгрыш», — сказаў ён «Новаму Часу».

Аднак беларускі суд прадказальна палічыў інакш і ў задавальненні пазову адмовіў.

Але гэта, мажліва, яшчэ не канец. Пасля атрымання матывіровачнай часткі рашэння Аляксандр Міхайлаў і яго прадстаўнік могуць падаць скаргу на рашэнне суда першай інстанцыі ў вышэйстаячы орган. Таму, можа быць, пра «справу адной літары» мы яшчэ пачуем.

# Беларускі не спяшаюцца цешыць уладу

Павел КІРЫЛАЎ




**Нават афіцыёзныя сацыёлагі давялі Аляксандру Лукашэнку, што пастаўленая ім дэмаграфічная задача беларусаў мала хвалюе.**

Нагадаем, гэта — узбуйненне насельніцтва да 15 мільёнаў. Пакуль дынамікі на прырост наогул няма, а беларускі становяцца маці ўсё пазней і пазней. Таму дзяржава прыдумала на самы бліжэйшы час новыя захады дзеля стымулявання нараджальнасці.

Паводле словаў Лукашэнкі, 15 мільёнаў грамадзян — гэта «эканамічная бяспека краіны». Ну а задачу, каб заахвоціць нараджаць, забяспечваючы людзей працай і падвышаючы дабрабыт, ён акрэсліў у звыклай мабілізацыйнай манеры: «За вырашэнне гэтых сацыяльных пытанняў спагнанне з любога чыноўніка будзе самае жорсткае!» Аднак сам ён кіруе эканомікай так, што агульны ўзровень жыцця з годнымі даходамі не надта расце.

І ўладам застаюцца з заахвочвальных сродкаў толькі льготныя крэдыты на будаўніцтва жылля для шматдзетных сем'яў, павелічэнне памеру дапамогі па доглядзе за дзецьмі і пашырэнне магчымасцяў па выкарыстанні сямейнага капіталу. Нярэдка ж беларусы нараджаюць дзеля тых самых кватэр. То-бок, вырашаюць канкрэтную праблему, але ўзровень іх жыцця не змяняецца. Ці гэта грунт для эканамічнай ды сацыяльнай бяспекі — пытанне дыскусійнае. Між тым, паводле нават афіцыйнай сацыялогіі (ад Інфармацыйна-аналітычнага цэнтра пры адміністрацыі кіраўніка дзяржавы) дэмаграфічная сітуацыя хвалюе толькі 3,5% беларусаў. А вось рост цэнаў непакоіць 72,5%, зніжэнне даходаў — 43%, беспрацоўе — 37%.

Паводле Белстату, цяпер першае дзіця беларуска нараджае ў сярэднім ва ўзросце 26,5 года. Пры гэтым гараджанкі — у 26,9, а сельскія жыхаркі — у 24,8. Параўнайце: у 1990 годзе нашы жанчыны станавіліся маці ў 22,9 года. Улады хочуць, каб беларускі нараджалі і раней, і больш. Для справядлівасці скажам, што медыкі таксама занепакоеныя тым, што беларускі наважваюцца нараджаць усё пазней за аптымальны ўзрост у 18–25 гадоў. Бо з цягам часу зніжаюцца шанцы зацяжарыць і павялічваюцца рызыкі для здароўя нашчадкаў. Зрэшты, тое самае тычыцца і мужчын.

Заахвочваць да больш ранняга мацярынства збіраюцца ўвядзеннем дадатковай дэкрэтнай дапамогі маці да 26 гадоў. Будзе працягнуты і праект «Сямейны капітал».

У памеры 10 тысяч долараў ён кладзецца на дэпазітны рахунак у «Беларусбанку». Са стаўкай 2% гадавых. Прэтэндаваць на яго могуць пакуль што толькі сем'і, у якіх ад 1 студзеня 2015 года ўжо нарадзілася ці да 31 снежня 2019 года яшчэ народзіцца трэцяе дзіця пры двух старэйшых, якім няма 18 гадоў. Тое самае тычыцца і ўсынаўлення. Скарыстацца гэтай сумай можна толькі тады, калі гэтае трэцяе дзіця дасягне 18-годдзя. Займець сямейны капітал можна толькі аднойчы. І скарыстаць толькі на пэўныя мэты — на паляпшэнне жыллёвых умоваў, атрыманне адукацыі, медычных і сацыяльных паслугаў, а таксама на фармаванне пенсіі для маці ў поўнай сям'і ці калісьці з бацькоў у няпоўнай. Калі цягам трох гадоў ні на што іх не выдаткаваў — вяртай дзяржаве. Сямейны капітал можна патраціць і датэрмінова — на платныя паслугі ва ўстановах аховы здароўя паводле адмыслоўага спісу выпадкаў.

Сямейных капіталаў ужо выдзелена больш як на паўмільярда долараў. Іх атрымальнікам застаецца спадзявацца, што праз колькі гадоў Беларусь будзе дастаткова заможнай, каб дзяржава выканала свае абяцанні. А пакуль прэм'ер-міністр Сяргей Румас анансаваў працяг гэтага дэмаграфічнага заахвочвання на новы цыкл — з 2020 па 2024 год. Прычым будзе дазволена датэрмінова выдаткаваць сямейны капітал на вырашэнне жыллёвых пытанняў або на аплату вучобы кагосьці са шматдзетнай сям'і. У такім разе выконваць абяцанні па сямейных капіталах давядзецца ўжо ў хуткім часе.

Праверыць эфекты ад такіх гарантыяў дзяржава зможа падчас кастрычніцкага перапісу насельніцтва: у беларусак рэпрадуктыўнага ўзросту будуць пытацца пра планы нараджаць. І паводле атрыманых дадзеных Аляксандр Лукашэнка зможа прыкінуць рэальнасць сваіх дэмаграфічных пажаданняў. Не забыўшы адмінусаваць тых, хто наважваецца з'ехаць з краіны — падчас перапісу будзе задавацца і такое пытанне.

# Узгадаць Канстытуцыю

Сяргей ПУЛЬША

**У Міжнародным адукацыйным цэнтры ў Мінску праходзіла сустрэча дэпутатаў Вярхоўных Саветаў 12 і 13 скліканняў.**

Для таго, хто цікавіцца палітыкай, сустрэча была сапраўды «зорнай». Яна адбылася з ініцыятывы Мечыслава Грыба, які ў сваім выступе адзначыў, што дэпутаты тых Саветаў сустракаюцца вельмі рэдка. І наспеў час правесці яе. А нагодай стала 25-годдзе прыняцця Канстытуцыі Беларусі, якое адзначаецца сёлета.

Там можна было пабачыць амаль усіх асобаў, якія ў свой час не сыходзілі з экранаў тэлевізараў і прымалі рашэнні, лёсавызначальныя для краіны. Экс-кіраўніка Нацбанка Станіслава Багданкевіча, экс-старшыню парламента Мечыслава Грыба, які падпісаў Канстытуцыю 1994 года, аўтара справаздачы пра карупцыю ў атачэнні Лукашэнкі Сяргея Антончыка, безліч дэпутатаў, якія спрычыніліся да айчыннай гісторыі: Лявона Баршчэўскага, Леаніда Дзейку, Паўла Знаўца, Алега Трусава, Аляксандра Дабравольскага, Анатоля Лябедзьку... Пералічваць усіх — не хопіць старонкі.

Вельмі не хапала хіба Зянона Пазняка. Але Сяргей Папкоў зачытаў яго зварот, у якім Пазняк адзначыў, што народ пазбаўлены правоў, і што існуе пагроза беларускай незалежнасці і суверэнітэту з боку Пуцінскай Расіі.

На такія сустрэчы трэба было б вадзіць школьнікаў — каб яны з першых вуснаў чулі пра найноўшую гісторыю Беларусі.

Прыкра, што гэткія падзеі адбываюцца вельмі рэдка. Таму што час няўмольны. З дэпутатаў Вярхоўнага Савета 12 склікання зараз жывымі засталіся 170 чалавек. Сумнай навіной стала тое, што менавіта ў дзень сустрэчы сышоў з жыцця яшчэ адзін дэпутат — Сямён Домаш. Ён раптоўна памёр у Гродна ў сваім аўтамабілі ад спынення сэрца...

Усіх сваіх адышоўшых калегаў дэпутаты адзначылі хвілінай маўчання.

У прынцыпе, на мерапрыемстве адразу было адзначана — сустрэча больш сяброўская, чым працоўная. І гэта адчувалася ў атмасферы — экс-дэпутаты проста не паспявалі вітаць адзін аднаго, перакінуцца словам, бо да іх адразу падыходзілі іншыя. Пазнавалі, віталіся, віншавалі... Па вялікім рахунку, такую імпрэзу трэба было рабіць не афіцыйна, а ў прыватным рэжыме, каб усе паспелі адзін з адным нагаварыцца.

Канешне, з нагоды 25-годдзя Канстытуцыі дэпутаты, якія на сустрэчу з'явіліся, прынялі зварот да беларускага народа. У ім адзначаецца, што ў Канстытуцыі зафіксаваныя палажэнні, якія і дасюль застаюцца стратэгічна важнымі для існавання «ўсёй нашай нацыі і цяпер, і ў будучыні». Напрыклад, што Рэспубліка Беларусь — унітарная дэмакратычная сацыяльная прававая дзяржава, што яна валодае «вяршэнствам і паўнатой улады на сваёй тэрыторыі, самастойна ажыццяўляе сваю ўнутраную і знешнюю палітыку». Што дзяржава «абараняе сваю незалежнасць і тэрытарыяльную цэласнасць, канстытуцыйны лад, забяспечвае правапарадак».

І, урэшце, згаданы артыкул 18 Канстытуцыі, дзе сказана, што Рэспубліка Беларусь у сваёй знешняй палітыцы «зыходзіць з роўнасці дзяржаў».

Не дзіва, што ў звароце гаворыцца: «З кожным годам мы ўсё больш выразна ўсведамляем, наколькі важна, каб краіна і ўсе яе грамадзяне жылі паводле Асноўнага закона дзяржавы».

Сапраўды, афіцыйныя ўлады практычна забыліся на беларускую Канстытуцыю — Асноўны закон, — што дазваляе ім адрынуць усялякі шантаж з боку іншых дзяржаў і структур. І дэпутаты нагадваюць — забыліся дарма.

Анатоль Лябедзька выступіў з ініцыятывай стварэння «Дэпутацкага клуба». І, гледзячы па гэтай сустрэчы, такі клуб быў бы вельмі карысным. Хаця б для беларускай гісторыі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# Кантралююць, але ці тое, што трэба?

Таццяна ШАПУЦЬКА

**Узмоцнім кантроль, спынім бардак, вінаватых пакараем — гэтую любімую рыторыку ўлады ўключаюць шторaз, калі здараецца нешта надзвычайнае.**



www.b17.ru

Так і гэтым разам, на наступны дзень пасля трагедыі ў Стаўбцоўскай школе Аляксандр Лукашэнка, нават не выказаўшы спачуванні сем'ям загінулых, адразу пайшоў у атаку з абвінавачваннямі ў бардаку ў адсутнасці жалезнай дысцыпліны, а міністэрства адукацыі абвясціла, што меры бяспекі ў школах узмоцняцца. Але, прабачце, што там яшчэ можна ўзмацніць? Цяпер у школы чужы чалавек і так фактычна не патрапіць — гэта пацвердзілі і бацькі навучэнцаў са Стоўбцаў.

У кожнай школе — камеры відэаназірання ды баявыя вахцёры, якія не прапускаюць нават бацькоў школьнікаў, пакуль не запішуць прозвішча і не выпытаюць, да каго канкрэтна наведнік ідзе. Паставіць рамкі ці выдаць вахцёрам металашукальнікі? Малаверагодна, улічваючы агромністую плынь людзей штораніцы і штовечар. Дый сэнс? Хто хоча забіць — заб'е не ў школе, дык каля школы. Не каля школы, дык ля дома — магчымасць знойдзе. Так што папуліцкія заявы чыноўнікаў — чарговая спроба залагодзіць публіку. Але, падаецца, гэтым пустым словам ужо ніхто не верыць, і простыя чалавечыя спачуванні пацярпелым выглядалі значна б больш дарэчна.

А вось дзе відавочна трэба ўзмацняць і дысцыпліну, і кантроль, і ўсё, што можна, — гэта ў дзіцячых інтэрнатах. Пракурор Гродзенскай вобласці на прэс-канферэнцыі распавёў шакуючую гісторыю дзесяцігадовай дзяўчынкі, якую два месяцы гвалтавалі старэйшыя выхаванцы дзіцячага прытулку. Дзяўчынку часова забралі з сям'і, чакаючы, пакуль яе бацькі «стануць на шлях выпраўлення». Гвалтаўнікоў нават судзіць не могуць, бо яны не дасягнулі ўзросту наступлення крымінальнай адказнасці — у такіх злачынствах гэта 14 гадоў.

Што ж там адбывалася, калі 12–13-гадовыя дзеці два месяцы здзекаваліся з дзяўчынкі? Куды глядзелі выхавацелі, і ці самі не прымалі ў гэтым удзелу? Чаму сама гісторыя адбылася яшчэ ў 2016 годзе, але стала вядомай толькі цяпер? Што цяпер з дзяўчынкай і хто панясе адказнасць за тое, што здарылася? На гэтыя пытанні на прэс-канферэнцыі адказаў атрымана не было. Пракурор сціпла абмежаваўся думкай, што, мажліва, і ў іншых прытулках адбываецца нешта падобнае, і таму было б няблага паставіць камеры відэаназірання.

Ад такога цынізму перахопплівае дух — разумеючы, што, магчыма, у гэты момант недзе можа адбывацца падобны гвалт, пракуроры не б'юць ва ўсе званы, не праводзяць масавыя праверкі і не патрабуюць тэрміновага вылучэння сродкаў хаця б на сістэмы відэаназірання. Закрытых установаў шмат — гэта не толькі дзіцячыя прытулкі, але і дамы састарэлых, і псіхіятрычныя лякарні, і інтэрнаты для людзей з асаблівасцямі развіцця ды інваліднасцю. Гэта самыя неабароненыя групы, за якімі даглядаюць не заўжды сумленныя ды добрыя людзі, а значыць, неабходны дадатковы кантроль з боку грамадства і дзяржавы.

У пракуратуры Мінскай вобласці таксама заяўляюць, што за ўсім сочаць — у тым ліку за сітуацыяй з пашкоджанай «лавай Клінтана», якую з пачатку лютага нявечылі двойчы — спачатку разбілі на 4 кавалкі, пасля — на 14. Цяпер лаву вывезлі ў майстэрню на рэстаўрацыю, а па выпадках вандалізму завялі дзве крымінальныя справы. Сітуацыя ў Курапатах з боку дзяржаўных органаў кантралюецца, відаць, толькі на паперы, бо ніякіх канкрэтных захадаў па пошуку вінаватых зроблена не было.

У адрозненне ад грамадскіх актывістаў, якія ўчынілі засаду на вандала і практычна яго злавілі. І хоць ён паспеў ускочыць у машыну і з'ехаць, нумар машыны запісалі і перадалі ў міліцыю для разбіральніцтва. Праўда, нешта падказвае, што адказ з міліцыі прыйдзе ў стылі «асобу парушальніка высветліць не ўдалося», як было ў трынаццаці папярэдніх выпадках, калі апаганьвалі лаву.

Яшчэ адны гора-кантралёры, як высветлілася, засядаюць у лідскім райвыканкаме. Рыбакі выклалі ў сецціва відэа вадаёма ў Лідскім раёне, дзе пачаўся мор, і некалькі тон рыбы загінула. Праверка паказала, што ў райвыканкаме пра магчымы мор ведалі яшчэ ў сярэдзіне студзеня, і было прынята рашэнне зладзіць прэвентыўныя меры — зрабіць лункі, каб павысіць колькасць кіслароду ў вадзе. Як гэтае рашэнне было выкананае, зразумела з кадраў відэазапісу, дзе бачны горы мёртвых шчупакоў, акунёў ды іншых рыбаў.

Аматары рыбалкі актыўна абмяркоўваюць здарэнне — хтосьці жартуе, што рыбакі справіліся б сітуацыяй лепш за прыродаахоўныя структуры, нехта сароміць мясцовых жыхароў, якія замест таго, каб тэрмінова паведаміць куды-небудзь пра здарэнне, пачалі цішком вывазіць рыбу машынамі і санямі. Іншыя прадказваюць, як пакараюць чыноўнікаў, і ці прысудзяць ім штрафы за гібель тонаў рыбы, як прысуджаюць рыбакам, калі тыя вылавілі больш за дазволенае.

Пакуль рыбакі спрабуюць прыцягнуць дзяржслужачых хоць да нейкай адказнасці, галоўныя лыжнікі краіны з ліку чыноўнікаў паехалі на горналыжны курорт у Сочы. Сярод іх — Аляксандр Лукашэнка, у якога запланаваны тры дні перамоваў з расійскім прэзідэнтам Уладзімірам Пуціным. Пачатак перамоваў выглядае неблагім — кіраўнікі дзяржаваў публічна пахвалілі адзін аднаго, і нават разам пакаталіся на лыжах. Абодва прызналі наяўнасць пэўных «шурпатасцяў», але ацанілі іх як «вырашальныя».

Праўда, слова «браты» пакуль што ні разу не прагучала — Пуцін назваў беларускі бок «сябрамі», Лукашэнка пайшоў трохі далей і выказаўся пра Сочы, як пра «родны дом». Як пойдуць перамовы далей і якімі будуць іх вынікі — спрагназаваць цяжка. Але можна меркаваць дакладна, перамовы з Пуціным — не тая сфера, пра якую кіраўнік беларускай дзяржавы можа сказаць, што ён трымае ўсё на кантролі. Адзін неакуратны крок — і галоўны кантралёр становіцца падкантрольным.

ФІГУРЫ ТЫДНЯ

## Марына Золатава

**Безумоўна, галоўнай фігурай тыдня стала Марына Золатава. У судзе Маскоўскага раёна Мінска пачаўся рэзанансны працэс над рэдактаркай партала TUT.BY.**

Нагадаем, Марына Золатава засталася адзінай абвінавачванай па «справе БелТА», астатнія фігуранты — 14 супрацоўнікаў розных СМІ — былі вызваленыя ад крымінальнай адказнасці з прыцягненнем да адміністрацыйнай. Акрамя штрафаў, журналісты былі абавязаныя кампенсаваць прад'яўленую шкоду. Сумы розныя — ад 3 да 17 тысяч рублёў.

Галоўрэда TUT.BY абвінавачваюць паводле часткі 2 артыкула 425 Крымінальнага кодэкса («Бяздзеянне службовай асобы»), санкцыя артыкулу — ад штрафу і да 5 гадоў пазбаўлення волі.

Першапачаткова Марына Золатава таксама падазравалася паводле часткі 2 артыкула 349 («Несанкцыянаваны доступ да камп'ютарнай інфармацыі) КК Беларусі. Менавіта па гэтым артыкуле былі абвінавачаныя астатнія фігуранты справы. З усіх падазраваных Золатава — адзіная, як высветліла следства, хто не ажыццяўляў доступ да платных матэрыялаў БелТА. Крымінальны пераслед па гэтым артыкуле ў дачыненні да Марыны Золатавай быў спынены «ў сувязі з нездзяйсненнем злачынства».

СК двойчы адмовіў Золатавай у задавальненні хадайніцтва аб спыненні крымінальнага пераследу паводле 86-га артыкула Крымінальнага кодэкса.

7 жніўня ў офісах кампаній TUT.BY і БелаПАН прайшліператрусы і затрыманні. Былі затрыманыя галоўны рэдактар TUT.BY Марына Золатава, рэдактары партала Ганна Калтыгіна, Галіна Уласік і Ганна Ермачонак, галоўны рэдактар БелаПАН Ірына Леўшына і міжнародны аглядальнік інфармагенцтва Таццяна Каравянкова, уласны карэспандэнт «Deutsche Welle» Павал Быкоўскі і рэдактар інтэрнэт-сайта газеты «Беларусы і рынак» Аляксей Жукаў. Усе яны правялі па некалькі сутак у ізалятары часовага ўтрымання на Акрэсціна. Журналістаў і рэдакцыі падтрымалі Еўрасаюз, Савет Еўропы, ЗША, а таксама міжнародныя праваабарончыя арганізацыі.



Гэты суд яскрава дэманструе своеасаблівае разуменне паняцця «IT-краіна» прадстаўнікамі дзяржаўных арганізацый і СМІ. Ён ужо стаў рассаднікам інтэрнэт-мемаў і жартачак. Па-першае, мы даведаліся, наколькі сапраўды папулярны платны сэрвіс «найбуйнейшага інфармацыйнага агенцтва краіны» і наколькі ён самаакупляльны. БелТА мае ўсяго 36 падпісчыкаў!

Па-другое, у IT-краіне паролі і лагіны доступу да платнага сэрвісу інфармацыйнага агенцтва высылаліся... па факсе! Многія арганізацыі ўжо нават і забыліся пра такую прыладу. Гэта выклікала смех у залі і стала падставай для з'яўлення шматлікіх інтэрнэт-мемаў і жартачак.

Па-трэцяе, сведка Ірына Гарбачэўская, начальнік сектара ўліку БелТА, паведаміла, што толькі ў 2019 годзе інфармагенцтва прапісала ў дамовах умовы перадачы пароляў. Да гэтага не існавала ніякай адказнасці за перадачу пароля ад кліента трэцім асобам. Аднаго гэтага ўжо дастаткова, каб спыніць справу супраць галоўнага рэдактара TUT.BY.

Па-чацвёртае, прадстаўнікі «пакрыўджаных і пацярпелых» дзяржаўных СМІ прызналіся, што паролі доступу на сайт БелТА яны не змянялі дзесяцігоддзямі. За гэты час любы, хто звольніўся і меў пароль-лагін, мог карыстацца платнай стужкай навінаў БелТА. Між тым, незмяненне пароляў і неабарона інфармацыі — гэта таксама «бяздзеянне службовай асобы», за якое судзяць Золатаву.

Ну і, канешне, багата пытанняў выклікае той факт, што пад «справу БелТА» патрапілі не дзясяткі чалавек, звольненых і сышоўшых з дзяржаўных СМІ з дзейснымі паролямі доступу да інфармацыйнага агенцтва, а ледзь не выключна прадстаўнікі незалежных сродкаў масавай інфармацыі. Перадусім — найбуйнейшых, такіх, як TUT.BY і адзінага ў Беларусі недзяржаўнага інфармагенцтва БелаПАН.

Усё гэта дае падставы казаць пра «замоўленасць» «справы БелТА».

# «Час на баку Масквы. Яна можа дазволіць сабе доўгачасовы канфлікт з Мінскам»

Віталь ЦЫГАНКОЎ

**Палітолаг Аркадзь Мошэс, дырэктар даследчых праграмаў Усходняга суседства Еўрасаюза і Расіі ў Фінскім інстытуце міжнародных дачыненняў, напярэдадні сустрэчы Лукашэнкі і Пуціна даў інтэрв'ю «Радыё Свабода». Ён тлумачыць, чаму «дыпламатыя скандалу» ў выкананні Лукашэнкі больш не працуе, канстатуе, што новы расійскі пасол Бабіч штотыдзень дае «праграмныя ўстаноўкі», і прадказвае, што кіраўнікі краін зноў могуць ні пра што не дамовіцца.**

## Нас чакае чарговая няпростая сустрэча

***— Папярэднія перамовы Лукашэнкі і Пуціна скончыліся нічым, толькі стварэннем «рабочых групаў». Якія козыры на сёння маюць абодва бакі, з чым яны прышлі да новага раўнду перамоваў?***



Аркадзь Мошэс

— Варта зрабіць адну рэмарку. Цікава, што загадзя былі запланаваныя менавіта дзве сустрэчы. То-бок прапанавалася зыходзіць з таго, што на першай сустрэчы не дамовяцца, што працэс узгаднення пазіцыяў не надта прасунецца. Кіраўнікам краін спатрэбіцца сустрэцца, раздаць пэўныя ўказанні — і потым два дні чакаць пэўных вынікаў.

Калі казаць па сутнасці пытання, то, я думаю, ніякага істотнага прасоўвання не адбылося, бакі цяпер там жа, дзе і былі ў снежні. Ніякага прасоўвання ў энергетычным пытанні, у тэме захавання субсідыяў у абмен на палітычную інтэграцыю не адбылося. Таму, відаць, нас чакае чарговая вязкая, няпростая сустрэча.

Што да козыраў... Мы разумеем, што патэнцыялы бакоў непараўнальныя. Але справа не ў тым, што Масква абавязаная выкарыстоўваць увесь свой рэсурс, каб дацiснуць Мінск і прымусіць яго прыняць свае ўмовы — я казаў і кажу, што гэта наўрад ці адбудзецца і што я гэтага не чакаю.

Аднак час на баку Масквы, прынамсі ў кароткачасовай перспектыве. І гэта галоўны козыр. Бо Масква можа дзейнічаць паводле свайго плану незалежна ад таго, ці будзе дасягнутая дамоўленасць на гэтай сустрэчы. Мінску больш складана, бо рэсурсаў менш, і трэба дакладней уяўляць, на якую фінансавую сітуацыю можна арыентавацца ў сваёй палітыцы.

***— Раней, калі Масква больш настойліва прасоўвала сваю пазіцыю — Аляксандр Лукашэнка ўключаў «дыпламатыю скандалу», і даволі часта яна была паспяховай. Чаму цяпер канфлікт і падвышэнне ставак ужо не працуюць так, як раней?***

— Мне падаецца, гэта відавочна. Да 2014 года Масква зыходзіла з таго, што яна не можа сабе дазволіць доўгатэрміновы і глыбокі канфлікт з Мінскам. Трэба было падтрымліваць бачнасць карцінкі, што ўсё ў гэтых адносінах добра і што «милые бранятся — только тешатся».

А сёння назапасіўся пэўны аб'ём раздражнення. Мы гэта бачым, гэта відаць у заявах і намёках чыноўнікаў. Нядаўна было заяўлена, што нешта не ідзе ў Еўразійскім саюзе і што гэта блакуе нейкая адна краіна. І хоць гэтая краіна не называецца — усе расійскія СМІ адразу згадваюць Беларусь.

Па-другое, сёння Масква спрабуе паказаць, што яе задавальняе і адна, і другая альтэрнатыва, як сказаў Мядзведзеў у канцы года. «Калі хочаце сябраваць — будзем сябраваць, калі не хочаце — дык будзем супрацоўнічаць у значна меншым фармаце». «Калі хочаце грошай — ідзіце на пэўныя саступкі — тады мы выйграем дыпламатычна». «Не ідзіце на саступкі — тады мы зэканомім грошы». Так што мы выйграем у любым варыянце. Відаць, у Маскве сфармавалася псіхалагічная гатоўнасць на гэта — таму патэнцыйная стаўка Лукашэнкі на скандал не працуе.

***— Новая з'ява апошніх месяцаў — гэта большая, чым раней, увага расійскай прэсы да «беларускай тэмы». Наколькі гэта добры ці кепскі знак для афіцыйнага Мінску? Бо расійская прэса абмяркоўвае Беларусь у ракурсе «ці ўступіць Беларусь у Расію і што гэта можа даць?».***




— Расійскія СМІ сапраўды з задавальненнем ухапіліся за беларускую тэму. Бо яна цікавая і адносна новая. Я па-ранейшаму не ўпэўнены, што беларуская тэма ўсур'ёз цікавіць значную частку расійскага грамадства. Расійскае грамадства найперш зацікаўленае эканамічнымі пытаннямі, узроўнем жыцця. Ёсць шэраг праблемаў, якія цікавяць расійскае насельніцтва нашмат болей, чым замежная палітыка, і інтэграцыя Беларусі і Расіі ў прыватнасці.

У аналітычнай супольнасці сапраўды існуе разуменне, што ў Расіі не вельмі ўяўляюць, як і чым жыве Беларусь. Гэтаксама, як у свой час расійскі палітычны клас не вельмі ўяўляў, чым жыло ўкраінскае грамадства, і таму прымаліся памылковыя палітычныя рашэнні. Я думаю, што цяпер прадпрымаецца такая спроба неяк лепш даведацца, як і чым жыве Беларусь. І гэта вельмі складана, я скажу, бо незалежная сацыялогія ў Беларусі не дзейнічае. Таму людзі спрабуюць ездзіць, каб зразумець, што ж адбываецца.

## «Пасол Бабіч штотыдзень раздае ўстаноўкі»

***— У адной з папярэдніх размоваў вы адзначылі адносна новы нюанс у расійскай палітыцы ў Беларусі апошняга часу. «Рэч у тым, што праводзіцца праца па ўзмацненні таго самага "русского мира", які ў Беларусі, безумоўна, існуе і, магчыма, прадстаўлены ярчэй, чым у любой іншай краіне постсавецкай прасторы. Узяты курс на прамы зварот да людзей, да па-прарасійску настроеных масаў, якія падзяляюць расійскі погляд на тое, што адбылося ва Украіне». Як на гэта можа рэагаваць беларуская ўлада?***

— Гэта працэс, які нельга скончыць да 1 траўня ці Дня Парыжскай камуны. Мне падаецца, што ў гэтым працэсе цяпер вялікую ролю пачаў адыгрываць новы пасол Расіі ў Беларусі. Ён рэгулярна, раз на тыдзень, як сказалі б раней, «дае праграмныя ўстаноўкі», тлумачыць расійскую палітыку, рэагуе на выступы Лукашэнкі. І калі мы зыходзім з таго, што нейкія па-прарасійску настроеныя людзі існуюць у Беларусі — то цяпер яны могуць атрымаць афіцыйны расійскі пункт гледжання не з расійскіх СМІ і не ад блогераў, а непасрэдна ад пасла.

І, на мой погляд, у плане прапагандысцкага і інфармацыйнага забеспячэння расійскага курсу такая сур'ёзная змена адбылася. Бо калі параўнаць паводзіны спадара Бабіча з паводзінамі ягонага папярэдніка — мы пабачым выразны кантраст.

Што можа зрабіць у гэтай сітуацыі Мінск? Нічога. Бо пасол Расіі ў Беларусі — гэта адзіны чыноўнік і адзіны дыпламат, з якім беларускае кіраўніцтва не можа нічога зрабіць. З заходнімі дыпламатамі Мінск мог зрабіць шмат чаго — адключаць ім гарачую ваду, высылаць іх з краіны. Такія паводзіны да расійскага пасла не прымяняльныя.

## Прэзідэнты могуць сказаць, што зноў не дамовіліся

***— Ці рызыкнеце вы зрабіць перад сустрэчай Лукашэнкі і Пуціна прагноз, як можа скончыцца гэты раўнд перамоваў? Натуральна, што яны ўжо не могуць зноў разысціся ні з чым, канстатаваўшы, што зноў ні пра што не дамовіліся.***

— Яны могуць сказаць, што зноў не дамовіліся. Яны могуць сказаць — «прайшла прадуктыўная сустрэча ў духу партнёрства і супрацоўніцтва, рабочыя групы працягнуць працу», і гэтак далей. У нас набліжаецца 2 красавіка, дата ўтварэння «Саюзнай дзяржавы», можна сустрэцца і тады, калі зараз не ўдасца дамовіцца. І падпісаць хоць што-небудзь. На стале ляжыць дамоўленасць аб узаемным прызнанні візаў — то-бок нейкі пернік падрыхтаваны.

Але, паўтаруся, час у кароткачасовай перспектыве працуе на Маскву, і яна можа дазволіць сабе зараз не ісці на дамоўленасці, якія яе не задавольць. Што тычыцца стратэгічнага аспекту — то я прытрымліваюся думкі, што прыстойнасць будзе захаваная, што рэальнай палітыкі паглынання Беларусі Расія не праводзіць. Яна праводзіць палітыку зніжэння ўзроўню субсідыяў і павелічэння ўзроўню геапалітычнай лаяльнасці.

**«Радыё Свабода»**



# Вашыя валасы могуць дапамагчы анкахворым



Таццяна ШАПУЦЬКА

**Па вуліцы крочыць жанчына відавочна пасля хіміятэрапіі — вейкаў і броваў няма, на галаве хусцінка, твар стомлены змаганнем з хваробай. Як можна ёй дапамагчы, калі ў самога ў кішэні пуста? Можна зрэзаць валасы і ахвяраваць іх на парык. Новы від дабрачыннасці набірае абароты на Захадзе, але да Беларусі пакуль што не дабраўся.**

## Аддаць валасы? Ці прадаць?

Вулічныя слупы, аблепленыя абвесткамі «Куплю валасы. Дорага», бачыў кожны, хто хоць зрэдку адрывае вочы ад смартфона. Прадпрымальнікі скупляюць валасы, каб пасля зрабіць з іх натуральныя парыкі ды прадаць за немалую суму. Прыкладны кошт парыка, які імітуе кароткую стрыжку, — 1200 рублёў. Натуральныя парыкі з даўгіх валасоў каштуюць удвая-ўтрая больш.

Аднак не любыя валасы купяць — даўжыня зрэзаных валасоў павінна быць мінімум 25–30 сантыметраў, яны не павінны быць зблытаныя. Найбольш цэняцца доўгія светлыя нефарбаваныя валасы, найменш — фарбаваныя. Валасы аплачваюцца па грамах, 100 грамаў каштуюць каля 35 рублёў. За валасы да пояса ці блонд ідзе надбаўка. Сумы невялікія, улічваючы, што нават для мінімальнай даўжыні ў 25 сантыметраў трэба не стрыгчыся некалькі гадоў. Для вырабу аднаго парыка патрабуецца ад 5 да 10 пукоў валасоў.

Калі хочацца кароткай фрызуры, а дарма выкідаць ці аддаваць за бясцэнак адрошчанае багацце жадання няма — можна ахвяраваць валасы на дабрачыннасць. Праўда, пакуль што не ў Беларусі. У многіх еўрапейскіх краінах, у тым ліку ў суседніх Польшчы ды Літве, існуюць цырульні, дзе чалавек можа бясплатна аддаць свае валасы, а яму на знак падзякі зробяць бясплатную стрыжку. З ахвяраваных валасоў робяць парыкі, якія дораць анкахворым пацыентам. Звычайна гэта жанчыны пасля хіміятэрапіі, але бываюць і дзеці. Набыць натуральны парык самастойна — вельмі дорага, а штучныя парыкі падыходзяць нямногім: у іх некамфортна, чэшацца да парыцца скура, дый выглядаюць яны значна горш за натуральныя.

Каб заахвоціць людзей ахвяраваць валасы, цырульні часта запрашаюць найлепшых майстроў, да якіх і за грошы звычайныя кліенты не заўжды могуць патрапіць. У Ізраілі фонды і цырульні шчыльна супрацоўнічаюць са школамі, і дзяўчаты цэлымі класамі штогод ходзяць на такія стрыжкі — без прымусу, але з асэнсаваннем, што яны дапамагаюць тым, каму гэта вельмі патрэбна. Калі ў чалавека няма магчымасці прыйсці і пастрыгчыся ў пэўнай цырульні, можна састрыгчы валасы хоць дома (выконваючы некаторыя патрабаванні) і выслаць іх поштай на адрас фонду з любой кропкі свету. Вам аддзячаць віртуальным дыпломам.

## «Калі чалавек хоць часова забудзецца на хваробу дзякуючы маім валасам — гэта цешыць»

Вядомыя людзі часта публікуюць заклікі ахвяраваць валасы, дый самі ўдзельнічаюць у такіх акцыях. Сярод іх — герцагіня Кембрыджская Кейт Мідлтан ды міністарка Францыі па пытаннях гендарнай роўнасці Марлен Шʼяпа. Нядаўна ў такой дабрачыннасці прыняла ўдзел і адзіная ў свеце беларускамоўная іспанка, паэтка, філолаг Анхела Эспіноса. Для яе гэта быў першы досвед.

— Я спецыяльна вырашыла перастаць стрыгчы валасы пяць гадоў таму менавіта для таго, каб потым ахвяраваць іх такой ініцыятыве. Я заўжды любіла эксперыментаваць са сваёй знешнасцю, насіла розныя кароткія ці сярэднія стрыжкі. Доўгія валасы былі нязручнымі для мяне ў дзяцінстве і падлеткавых гадах, і мне не хацелася надаваць шмат часу догляду за імі, я не была гатовая ўставаць раней, каб рабіць прычоску... Калі аказалася, што мае натуральныя доўгія валасы не патрабуюць вялікай траты часу, я іх панасіла дзеля змены іміджу, бо я люблю бачыць сябе рознай. Але першапачатковай мэтай было іх аддаць анкапацыентам, — распавядае Анхела.

Дзяўчына кажа, што вырашыцца састрыгчы валасы было нескладана:

— Я ж не Самсон — сіла чалавека ў тым, наколькі ён добры да іншых. Даўжыня валасоў мае істотнае значэнне? Ды не. Істотнае значэнне мае здароўе, у тым ліку — псіхічны стан, асабліва падчас цяжкай фізічнай хваробы. Калі чалавек з анкалагічнай хваробай можа забывацца на яе хоць на кароткі час дзякуючы парыку з маіх валасоў — гэта не можа мяне не цешыць. Дарэчы, тое, што толькі дзяўчыны надаюць значэнне даўжыні сваіх валасоў — памылковае і стэрэатыпнае ўяўленне. Мае знаёмыя мужчыны-металісты не аддалі б сваіх валасоў нікому і ні за што, затое амаль усе донары, якіх я ведаю, — менавіта жанчыны.

Па словах Анхелы, такі від дабрачыннасці ў Іспаніі даволі папулярны. Звычайна трэба пытацца ў цырульніка, ці практыкуе ён донарства. Анхела пастрыглася ў сваёй цырульніцы.

— Спачатку вымяраюць даўжыню валасоў, якія будуць ахвяраваныя. Мінімум у нас — 20 сантыметраў. Інакш, кажуць, парык атрымаецца занадта кароткім, не хопіць на ўсю галаву. Потым збіраюць валасы ў хвосцік, стрыгуць, а пасля крыху падпраўляюць стрыжку, каб выглядала прафесійна.

Анхела гаворыць, што блізкія адрэагавалі на яе ўчынак выключна пазітыўна, дый ёй самой спадабаўся такі досвед:

— Мне пашанцавала з сацыяльным колам — у маім асяродку цэняць людзей не за іх знешнасць, а за дзеі і за тое, што ўнутры ў чалавека. На змену прычоскі амаль не звярталі ўвагі, альбо проста казалі, што таксама пасуе, а вось сам факт ахвяравання ўспрынялі вельмі станоўча.

## А што ў Беларусі? Анкахворых шмат, але валасы ахвяраваць няма дзе

Танцорка Наталля Белазёрава, якая зʼехала на вучобу ў Польшчу і цяпер жыве ў Кракаве, распавядае, што двойчы спрабавала ахвяраваць свае валасы ў Беларусі, ды не знайшла дзе.

> **Канешне, аддаваць ці прадаваць валасы — выбар кожнага чалавека. Але мне хочацца нешта зрабіць для хворых людзей. Вядома, шкада, што я не змагла ахвяраваць валасы ў Беларусі — калі зазірнуць у кожную беларускую сямʼю, то знойдзецца хоць адзін хворы на анкалогію**

— Яшчэ два гады таму я хацела зрэзаць валасы ў Беларусі, але не знайшла ніякай інфармацыі, як гэта зрабіць. Гадавала валасы далей, але нядаўна зноў вырашыла паспрабаваць — думала, мо, нешта змянілася. Зноў не знайшла ніякіх варыянтаў, і ў выніку зрэзала валасы ўжо ў Кракаве. Я засталася вельмі задаволеная, бо мне не проста састрыглі валасы, а стыліст выбраў і прапанаваў фрызуру і даўжыню, якая будзе найбольш пасаваць менавіта мне, усё акуратна падраўнялі, зрабілі маску ды ўмацавалі валасы рознымі сродкамі.

Наталля ахвяроўвала валасы ў межах праграмы «Даеш валасы!», якую праводзіць дабрачынны фонд Rak'n'Roll па ўсёй Польшчы. На сайце фонду месціцца спіс салонаў, якія супрацоўнічаюць з ім, і можна выбраць найбліжэйшы да хаты, як і зрабіла Наталля.

Па словах Наталлі, сярод яе знаёмых многія ахвяруюць валасы анкахворым — магчыма, гэта звязана з яе каталіцкім асяродкам. На сайце Rak'n'Roll пазначана, што фонд атрымлівае некалькі тысяч пучкоў валасоў штомесяц (у тым ліку і поштай). Выраб парыка — справа няпростая, у месяц фонд робіць каля 30 парыкоў. Калі хворая жанчына хоча атрымаць бясплатны парык, яе лекар мусіць падаць адмысловую заяўку.

Наталля гаворыць, што для цікавасці даведвалася пра кошт сваіх валасоў, калі б вырашыла іх здаць прадпрымальнікам.

— Выходзіла не так і шмат, каля 100 долараў. Канешне, аддаваць ці прадаваць валасы — выбар кожнага чалавека. Але я б не прадавала, і справа не ў кошце. Мне хочацца нешта зрабіць для хворых людзей. Вядома, шкада, што я не змагла ахвяраваць валасы ў Беларусі — калі зазірнуць у кожную беларускую сямʼю, то абавязкова знойдзецца хоць адзін хворы на анкалогію. Я не ўпэўненая, што многія з іх могуць сабе дазволіць набыць натуральны парык.

Цяпер Наталля наноў гадуе валасы і спадзяецца, што пакуль яны адрастуць, падобнае донарства будзе магчыма і ў нас.

Паводле дадзеных Міністэрства аховы здароўя, у Беларусі штогод 47 тысяч чалавек захворвае на рак. Многія з іх праходзяць хіміятэрапію і губляюць валасы. Аднак ні медыцынскія, ні дабрачынныя ўстановы не прапануюць такога віду донарства, як донарства валасоў. Інтэрнэт-пошукавікі не знаходзяць ніводнага месца ў Беларусі, дзе можна было б здаць валасы на парык для анкахворых.

У прыватнай размове супрацоўнікі анкалагічных арганізацый выказалі меркаванне, што, мажліва, у Беларусі больш увагі надаецца лячэнню хворых на анкалогію дзяцей, а не дарослых. А ці думаюць хворыя дзеці пра парык? Акрамя гэтага, патрэбны большы штат валанцёраў, дый каардынацыя такога донарскага руху — гэта агромністы пласт працы, за які трэба камусьці ўзяцца.

«Ці да парыка, калі думаеш, як выжыць?» — скажуць некаторыя. Але добры выгляд і самаадчуванне надаюць сілаў для ацалення, ці не так?



15 лютага 2019 | № 6 (617) Новы Час

## 21 лютага — Дзень роднай мовы

# Узгадаваць беларускамоўных аднакласнікаў



Віталь СТАНІШЭЎСКІ

**Мова жыве, калі жывуць яе носьбіты. У мовы ёсць перспектыва, калі яна перадаецца з пакалення ў пакаленне. У гэтым сэнсе беларуская мова жывая, бо засталіся людзі, для якіх яна была сродкам зносін, прышчэпленым бацькамі і землякамі ў родных мясцінах, і якія вучыліся на ёй.**

З перадачай з пакалення ў пакаленне цяжэй. Дзеці тых беларускамоўных у большасці выхаваныя на рускай мове. З другога боку, новыя беларускамоўныя выхоўваюць дзяцей па-беларуску, і ў мовы з'яўляецца новае пакаленне. У беларускамоўным выхаванні ёсць важная надбудова — школа. Але, здаецца, новыя беларускамоўныя ўпускаюць некаторыя шанцы і дзейнічаюць без уліку сучаснай спецыфікі.

### Што маем цяпер

Цікавы разгляд беларускамоўнага школьніцтва з пачатку XX стагоддзя і да сучаснасці прывёў Вінцук Вячорка ў артыкуле «Як беларусы змагаліся за сваю школу пры ўсіх рэжымах. Да Дня беларускае школы». Ёсць там такі сказ: «... не мы, не бацькі павінны збіраць подпісы паводле невядома адкуль узятай квоты на беларускамоўнае навучанне. Калі вам кажуць, што вы павінны знайсці яшчэ восем ці дзесяць сем'яў, якія хочуць вучыць дзяцей па-беларуску, — гэта няпраўда. Па-першае, даць магчымасць вучыць дзіця па-беларуску — абавязак дзяржавы. Па-другое, няма афіцыйна зацверджанага мінімуму вучняў для адкрыцця беларускамоўных класаў».

Многія беларускамоўныя бацькі дзейнічаюць па гэтым прынцыпе. Яны не згаджаюцца на школы, да якіх трэба некуды ехаць, падаюць у суды. Калі бацькі не такія баявыя, то могуць кідацца з агню ў полымя — шукаць тыя самыя 8–10 сем'яў сярод выпадковых суседзяў. І той, і другі спосабы аддаляюць ад мэты — ад выхавання новага беларускамоўнага пакалення.

Першы спосаб — змаганне за прынцып як такі. Калі павінны, калі мы маем права — то трэба патрабаваць і атрымаць. Калі не даюць, — то, значыць, гэта варожыя сілы, з імі трэба змагацца. Другі спосаб — крокі насустрач бюракратычнай машыне са стратай уласных інтарэсаў (не прынцыпаў, а непасрэднай мэты).

Нядаўна прэса пісала пра гамельчука, які не здолеў засудзіць чыноўнікаў, якія адмовілі яго дачцэ ў навучанні па-беларуску. Чыноўнікі прапаноўвалі гімназію ў 7 кіламетрах ад дому, бо не палічылі мэтазгодным стварыць клас для адной вучаніцы. Падобныя гісторыі былі і ў іншых гарадах. Людзям нешта прапаноўвалі, але далекавата. Чаму ж чыноўнікі так робяць, ці яны наўмысна перашкаджаюць беларускаму выхаванню дзяцей?

Калі думаў пра гэта, трапілася на вочы гісторыя, як у адным аграгарадку школьнікам давodзілася ў школьных класах ствараць асвятленне ліхтарыкамі.

«Вучням музычнай школы ў аграгарадку Падлабенне даводзіцца вось ужо некалькі месяцаў запар займацца ў памяшканні, дзе няма святла. Выкладчыкі гавораць, што праблему мясцовая ўлада і раённы аддзел культуры паабяцалі вырашыць літаральна днямі, але пакуль дзеці на заняткі прыходзяць з ліхтарыкамі. ...У Падлабенні жыве каля 700 чалавек. Агульнаадукацыйнай школы тут няма: дзеці на вучобу ездзяць у суседні аграгарадок Рацічы і ў Гродна».

Пасля размяшчэння фатаграфій з ліхтарыкамі ледзь не звольнілі настаўніцу. Чытачы былі абураныя. Дажыліся! Каб ліхтарыкамі ў класах свяціць, сваімі персанальнымі, куды падаткі ідуць? На гэта і быў акцэнт нават у тых, хто абураўся паводзінамі чыноўнікаў у Гомелі. У выпадку Падлабення ж нешта належнае ўспрынялі, што дзецям падаткаплацельшчыкаў трэба некуды ехаць. Прычым да Рацічаў — 9,5 кіламетра, а да Гродна — 12 кіламетраў. У гэтым выпадку ніхто не апеляваў да права грамадзян і абавязку дзяржавы. Так бы мовіць, «вы ж разумееце»...

> **Беларусь была створаная, каб абараняць беларускія нацыянальныя каштоўнасці. Але між «як было» і «як мае быць» з аднаго боку і «як ёсць» — вялікая прорва. На практыцы Беларусь у асобе яе ўлады паводзіць сябе як карпарацыя, якая імкнецца захаваць сябе і шукае сродкі для самазабеспячэння**

### Архіпелаг Беларусь у моры Рэспублікі Беларусь

Калісь-ці Валянцін Акудовіч параўнаў беларускамоўных (ці нацыянальна свядомых) з архіпелагам, бо яны разрозненыя, распыленыя, аддаленыя адзін ад аднаго. Архіпелаг Беларусь. Калі дзяржава вымагае ад школьнікаў Падлабення ехаць за 9 ці 12 кіламетраў вучыцца, то таму, што гэта малы аграгарадок, а ездзіць туды настаўнікам самім не выпадае. Лагістыка, кіраванне рэсурсамі без нацыянальна-моўных аспектаў. На нашым архіпелагу беларускія выспы таксама малалікія. Калі ўлады размяркоўваюць рэсурсы сярод «астраўлян», то зыходзяць з той жа логікі, як і ў выпадку Падлабення.

Падаткаплацельшчыкі маюць права на гарантаваныя ім даброты. Аднак слушна і тое, што бюджэтныя даброты размяркоўваюцца па мностве іх карыстальнікаў дзеля аптымізацыі выдаткаў. Ідэальна, каб на аднаго вучня прыпадаў адзін настаўнік, але за такую раскошу грамадзяне дорага б заплацілі. Таму ў класах бывае па 20–30 вучняў (болей ужо педагагічна немэтазгодна).

Логіка чыноўнікаў — прагматычна-эканамічная. Яны мераюць беларускамоўнае школьніцтва тою ж меркай, што і рускамоўнае. Так, гэта абыякавасць, але ўсё ж не мэтанакіраваны ўціск. Беларуская мова — пад пагрозай, і ёй трэба прэферэнцыі, пазітыўная дыскрымінацыя. Але гэта іншая пастаноўка пытання. Перад чыноўнікамі ТАК яго не ставілі.

Пазітыўная дыскрымінацыя заключалася б у тым, каб у сістэме адукацыі знізілі планку для беларускамоўнага класа або скасавалі яе. Імаверна, гэта пытанне трэба падымаць асобна. Пакуль жа дзяржаўныя людзі могуць і не разумець, у чым сутнасць прэтэнзій.

Так, Беларусь была створаная, каб абараняць беларускія нацыянальныя каштоўнасці. Але між «як было» і «як мае быць» з аднаго боку і «як ёсць» — вялікая прорва. Дзяржава (у тэорыі) мусіць абараняць яе неад'емныя і першапачатковыя каштоўнасці. На практыцы, на бягучы момант, Рэспубліка Беларусь у асобе яе ўлады паводзіць сябе як карпарацыя, якая імкнецца захаваць сябе і шукае сродкі для самазабеспячэння. На другі план адыходзіць і мова, і архітэктура, і вясковыя дамы, і рака Прыпяць, і радыяцыйная бяспека, і многае іншае. Тузаць дзяржаву, каб яна вярталася да святынь, — трэба, але варта разумець, што яна прасякнецца імі не хутка.

### Колькасць і якасць

Пытанне не закрываецца толькі зніжэннем ці скасаваннем планкі. Кадравыя рэсурсы таксама абмежаваныя. Беларускамоўных настаўнікаў — абмежаваная колькасць, як і рускамоўных. А ці высвятляў хто, якая іх прапорцыя да адпаведных вучняў? Апелюючы да нашага права і да абавязку дзяржавы, мы можам забывацца і на фізічную магчымасць. Або давядзецца ехаць настаўніку з суседняй школы, або трэба выхоўваць новых, або перавучваць на беларускую мову наяўных. Настаўнік — непапулярная прафесія, па размеркаванні надоўга не затрымліваюцца.

Калі ставіць пытанне пра прэферэнцыі на дзяржаўным узроўні, ствараць спрыяльныя ўмовы і заробкі, спрыяльны конкурс у ВНУ, то вынік будзе атрыманы праз некалькі гадоў. Гэта трэба браць у разлік. Калі ў экспрэс-рэжыме «беларусізаваць» рускамоўных настаўнікаў, то тут таксама мусіць быць задзейнічана праграма дзеяння. Яе трэба распрацаваць. І яна не запрацуе адразу ж.

Іншы падводны камень — якасць. З прэферэнцыямі можна здабыць новых настаўнікаў, аднак якім будзе навучанне ад чалавека, які карыстаецца беларускай моваю ў абмежаваным аб'ёме (нават у межах свайго прадмета)? Задаволіўшы права і спагнаўшы абавязак, можна згубіць якасць. Калі ж вы ведаеце, што ёсць настаўніцкі калектыў з досведам і лаяльнасцю да беларускамоўных, то перспектывы для іх выхавання лепшыя.

Нашым чыноўнікам уласціва выдаваць фармальнае за рэальнае. Чыноўнікі — гэта кадравыя рэсурсы, сярод якіх таксама мала лаяльных або цямных да беларушчыны, і гэтыя рэсурсы кіруюць рэсурсамі ў выглядзе педагогаў. Вырашылі праблему на ніжнім узроўні — яна застаецца на верхнім. У перспектыве змены мусяць быць праведзеныя і на верхнім узроўні — увядзенне ў курс пра сутнасць прэферэнцый для беларускамоўных.

Пакуль адказныя за размеркаванне рэсурсаў будуць ранейшымі, ёсць рызыка фармалізатарства. Для дасягнення фармальных паказчыкаў раптам высветліцца, што ахвотныя беларускамоўныя знайшліся, аж 20 чалавек. Толькі акажуцца гэтыя 20 чалавек дзецьмі звычайных рускамоўных, якім беларуская мова не вельмі і трэба і якім сказалі, што яна і так будзе для птушкі. І разам з гэтымі 20 будзе вучыцца той адзіны ад беларускамоўных бацькоў. Але выкладанне можа быць рускамоўным ці на чвэрць беларускамоўным, бо чыноўніку лягчэй забяспечыць папяровых настаўнікаў, чым шукаць ці выхоўваць рэальных. А запярэчыць, будзе цяжка, бо астатніх 20 вучняў і іх бацькоў усё задавальняе. Прэцэдэнты былі. Узгадайма начныя чэргі ля 23 гімназіі, калі беларускамоўныя бацькі імкнуліся забяспечыць навучанне для сваіх дзяцей.

Такім чынам бацькі самі могуць трапіць у пастку, збіраючы подпісы па суседзях за беларускамоўнае навучанне. Суседзі могуць і згадзіцца, але без сапраўднай матывацыі. А потым паўторыцца — адзін беларускамоўны і 20 рускамоўных аднакласнікаў.

Ці сею я песімізм? Не, я хачу паказаць, якія дзейнічаюць прынцыпы. Чыноўнікі і настаўнікі — гэта зрэз грамадства, пераважна русіфікаванага. Размеркаванне чыноўнікаў, а за імі — настаўнікаў, якіх размяркоўваюць чыноўнікі, характарызуецца неразуменнем патрэб беларускамоўных. І, скажам шчыра, не разумець беларускамоўных не так цяжка, улічваючы нашы вельмі адрозныя патрэбы, упадабанні, ступень занурэння ў беларушчыну і інтэнсіўнасць жыцця ў ёй розных беларускамоўных. Самае простае для ўладаў сёння — размяркоўваць гэтаксама, як і для рускамоўных. Калі дапамагаюць — то як могуць. Калі беларускамоўным важна выхаванне новага пакалення тут і зараз, трэба дзейнічаць з улікам бягучых рэалій.

### Вяртанне ў кантэкст

Для выхавання пакалення носьбітаў важнае і выхаванне ў сям'і, і навучанне ў школе, але... Засвоіўшы ад папярэднікаў гэтыя пастулаты, нацыянальна свядомыя карыстаюцца імі ў адрыве ад кантэксту. Мова сям'і

— пачатак, зародак выхавання. Мова школы — працяг. Аднак выходзячы далей за сям'ю, носьбіт мовы трапляў у моўнае асяроддзе — сваякі, суседзі. У школе чалавек не проста спасцігаў навуку, але жыў у асяроддзі. Школа ператварае простае асяроддзе ў грамадства, калі гэта асяроддзе ёсць. Акрамя таго, настаўнікі раней былі часткай асяроддзя, больш чым службовай шрубкай.

На пачатку XX стагоддзя пад «першымі немцамі» першыя беларускія школы тварыліся знутры асяроддзя, настаўнікі былі з яго гушчару. Беларусы не пісалі заяў да немцаў з просьбай стварыць клас, даць настаўнікаў. Усе настаўнікі былі з іх кола і ў іх распараджэнні. У Заходняй Беларусі, калі прыціскалася беларуская асвета, было гэтаксама. Беларусы былі самі сабе асяроддзем, настаўнікі выходзілі з гэтага ж асяроддзя і мацавалі яго ж. Настаўнікі былі сваімі людзьмі і нават суседзямі. Мяркую, калі б у тыя часы нехта захацеў вучыцца ў беларускамоўнай школе, а яна была б за 7 кіламетраў, наўрад ці ён стаў бы судзіцца. Раней у школы хадзілі і на большыя адлегласці.

## Асяроддзе школы і школа асяроддзя

У артыкуле Вячоркі ёсць дзіўны пераход. Вось беларусы рабілі сабе школы, самаарганізоўваліся, прайшоў час, русіфікацыя, і пасля гэтага ім ужо трэба не самаарганізоўвацца для навучання, а патрабаваць яго ад дзяржавы (прычым, спачатку — ад СССР). Што змянілася, калі мы павінны ставіцца да дзяржавы так, нібы ў яе сховах ёсць шмат беларускамоўных школ і настаўнікаў, і яна іх сквапна адмаўляецца выдаць?

Падказка — у фразе: «Хочаце беларускамоўныя школы — едзьце ў вёскі». Русіфікацыя русіфікацыяй, але гэта не татальная смерць. Беларускамоўныя школы ў БССР былі, людзі ў іх вучыліся, яны і былі беларускамоўныя. Русіфікацыя пачыналася з гарадоў, адпаведна, беларускамоўныя школы засталіся ў вёсках. Яны і цяпер ёсць. І перыядычна знікаюць. І тады мы бачым у газетах сумны артыкул пра зніклую школу, чамусьці не здзіўляючыся таму, што яны ўвогуле былі. Чаму ж мы не апякуемся тым, што жывое, і не імкнёмся захаваць найперш жывое?

Другая акалічнасць — беларусізацыя ў першыя гады Закона аб мове, калі беларуская была адзінай дзяржаўнай. Тады і кадры рыхтаваліся, і школы імі забяспечваліся. Аднак беларуская мова стала не адзінай праз пяць гадоў, і з таго часу мінулі няспрыяльныя 23 гады. Чуючы пазіцыю «дайце, бо ў вас ёсць», задумваюся: ці не застыў нехта ў мінулым часе?

Беларуская мова не прарасла ў вялікія гарады, не стала сродкам зносін хоць адной вулачкі. Згадка вёсак — не столькі імкненне прынізіць мову, колькі ўказанне на фактычны стан. Бюракратам не ўласціва разбірацца ў гісторыі, думаць пра змену статус-кво, нешта мяняць. У вёсках гэта была і мова зносін, і мова навучання. Тыя, хто хацеў і хоча беларускамоўнага навучання ў сябе ў горадзе, грунтуюцца на нацыянальным пачатку, які вынікае з дзяржаўнага (нават у несуверэннай форме БССР), але, у адрозненне ад папярэднікаў на пачатку XX стагоддзя, пачалі ўсведамляць мову ў адрыве ад супольнасці жывых людзей. А такая супольнасць заставалася ў вёсках.

Гэта погляд, у якім мова — даброты ці рэсурсы, якія выдае бюракратычны апарат па патрабаванні, бо так павінен. Пры такім падыходзе яна не выжывае і ў тым пакаленні, якому яе перадалі. Дзеці задаюць пытанні, размаўляюць з наваколлымі, бачаць розніцу між тым, як руская мова звязвае людское асяроддзе і якой індывідуалісцкай застаецца беларуская. Бацькам было няважна знайсці аднадумцаў-аднамоўцаў, бацькі не ездзілі самі і не вазілі дзяцей у беларускамоўныя асяродкі, бацькі напяваюць рускамоўныя песні і чытаюць рускамоўныя кнігі. А ў некаторых аднакласнікаў бацькі ўвогуле рускамоўныя (маўляў, хай дзяржава дзяцей зробіць беларусамі, яна павінна). А беларускамоўныя настаўнікі пасля ўрокаў пераключаюцца на рускую — як усе.

Індывідуалізм супраць калектывізму. Чалавек — сацыяльная істота, і, атрымліваючы адказы на пытанні, дзеці, навучаныя ў такіх знешне беларускамоўных умовах, рэдка застаюцца беларускамоўнымі. У іх не было аднамоўцаў не тое што ў двары, але і на лесвічнай пляцоўцы. У іх не было беларускамоўных сяброў у школе (а калі чыноўнік зрабіў «ліпавы» клас, то і сярод аднакласнікаў). У іх няма вясёлага суседа або пляткаркі-бабулі, або мудрага старэйшага сябра, або цётачкі са смачнымі цукеркамі — калі не лічыць рускамоўных.

Вясковыя беларускамоўныя, якія маюць і асяроддзе, і школу, таксама асімілююцца. Толькі ў справе жыцця мовы і прывязкі да моўных каранёў яны нясуць у сабе той першавобраз неасіміляванай беларускай грамады. Іх досвед важны. Досвед асяроддзя і школы, які рабіў іх беларускамоўнай грамадой — пазітыўны, досвед асіміляцыі ў новым, рускамоўным соцыуме — негатыўны.

## Сімбіёз самаарганізацыі і знешняй падтрымкі

Што гэта значыць для тых, хто хоча выхаваць беларускамоўнае пакаленне — няўжо не патрабаваць належнага ў дзяржавы? Не зусім. Па-першае, арыентацыя на ўзаемнае згуртаванне ўсіх беларускамоўных удзельнікаў працэсу — бацькоў, вучняў, настаўнікаў — нашмат важнейшая за мімалётны індывідуальны выйгрыш і пешую даступнасць. То-бок, беларускамоўныя могуць і мусяць ашчасліваць адно аднаго, не чакаючы гэтага ад дзяржавы. Кантакт з беларускамоўнымі сябрамі і беларускамоўнымі настаўнікамі-ветэранамі — важнейшы за сядзенне сам-насам з нематываванай настаўніцай у пешай даступнасці. З сям'і мусіць пачынацца выхаванне ў асяроддзі, а школа мусіць служыць цэментаванню асяроддзя. Па-другое, стаўшы асяроддзем, трэба выступаць перад дзяржавай як адзіны суб'ект. Па-трэцяе, трэба ўлічваць слабасці і абмежаванні ўладаў, каб дзейнічаць аптымальна і апаратыўна для дасягнення мэтаў і каб ведаць, якія змены трэба прасоўваць. Дзяржаўная ўлада — зрэз русіфікаванага (у большасці) грамадства.

Злучыцца ўсім разам у адным горадзе, мо, і не ўдасца. Але з'яднацца хаця б у некалькі «кланаў» — гэта файна. Не кожны востраў архіпелага можа быць злучаны ў сетку, але масты робяць з іх хаця б некалькі зручных груп.

Па сутнасці, беларускамоўныя — меншасць. Спробы разглядаць моўную сітуацыю з гледзішча таго, што беларуская мова мінарытарная, былі раней, у нулявых. У гэтым сэнсе важная самаарганізацыя зацікаўленых і выступленне кансалідаванай грамадой, якая б была інстытуцыялізаванай выразніцай інтарэсаў беларускамоўных, прадухіляла б разнабой сваіх людзей і фіктыўныя захады ўладаў.

Лёгка сказаць, скажуць некаторыя, паездзі і павазі сам дзяцей. Я разумею цяжкасці. Ёсць перашкода, а ёсць выгада. Перашкода — доўгі праезд. Выгада — беларускамоўныя аднакласнікі. А ў выпадку пешай даступнасці дзіця з вялікай імавернасцю пакіне мову, як стане дарослым. Аднак чаму б ні папрасіць ва ўладаў транспарт? Якраз у вёсках Беларусі школьнікаў і давозяць на аўтобусах. А некалі СМІ абляцела гісторыя пра японскую школьніцу, дзеля якой працаваў цягнік, каб вазіць у школу (папраўдзе, аказалася, што станцыю закрылі, але яна па патрабаванні яго «лавіла» і ехала ў школу разам з 10 іншымі вучнямі).

Архіпелаг Беларусь вымагае асаблівай лагістыкі. Чаму б ні пагутарыць з уладамі іх жа лагістычнымі паняццямі? Яны атрымліваюць падаткі і пры гэтым узважваюць рашэнні. Падвоз беларускамоўных да іх школ — лагічная рэч, а кіроўцы і транспарт — не такія ўнікальныя, як беларускамоўныя педагогі. А пакуль ідуць перамовы, можна каапераваца з іншымі бацькамі, каб яны падвозілі дзяцей у школу. Мы ж грамада!

## Запаведныя месцы беларушчыны

А ўявіце, што ў пешай даступнасці не толькі беларускамоўная школа, але і беларускамоўныя сябры і тыя ж настаўнікі? Некалі так і было, калі грамада была грамадой. І настаўнікі былі не дасланыя з космасу — беларускамоўныя па працы, а свае, суседзі. Гэта таксама можна паўтарыць. Калі жыць побач са сваімі, усведамляць сябе соцыумам нават у межах адной вуліцы, тады мова прарасце праз мінскі бетон.

Гэтак адбываецца ў ірландцаў — у новых гэлтахтах. Гэлтахты — гэта запаведныя мясціны нацыянальнай мовы, нібы нашы вёскі са школамі. А новыя гэлтахты — гэта кварталы, у якіх ірландскамоўныя згуртаваліся для сумеснага жыцця вакол існых школ і садкоў.

«Тэлеканал Nuacht TG4 13 студзеня 2009 года паведаміў, што ў прыгарадзе Дубліна Балімане плануецца пабудаваць 38 дамоў для людзей, якія жадаюць жыць у ірландскамоўнай супольнасці ў горадзе. Гэты праект быў заснаваны на значнай лакальнай падтрымцы ірландскай мовы, таму што менавіта ў гэтым раёне ёсць чатыры ірландскамоўныя школы і адзін дзіцячы садок, а таксама крама, дзе абслугоўваюць па-ірландску».

«Існуе раён у Белфасце, вядомы як квартал-гэлтахт (An Cheathrú Ghaeltachta), дзе ірландская мова актыўна развіваецца. Так, у гэтым раёне існуюць ірландскамоўныя пачатковыя і сярэднія школы, дзіцячыя садкі, ірландскамоўны рэстаран і культурны цэнтр».

Зможам і мы. Нашы дзеці заслужылі жыць, дзе вучацца, і вучыцца, дзе жывуць. Разам. Новае беларускае пакаленне таго вартае.

Пачаць можна з малога: знайсці іншых бацькоў у Viber-канале «Дзеткі-кветкі» або ў аднайменнай суполцы на Facebook, выбраць прыдатныя школы і дзіцячыя садкі на сайце www.svaje.by...

Узгадваць беларускамоўных аднакласнікаў. У гэтым сапраўды вялікі сэнс. Беларусы пачатку XX стагоддзя, якія жылі і вучыліся разам, пазней сталі значнымі прадаўжальнікамі беларускай справы, якія цанілі сваё братэрства. У нашых сілах спрычыніцца да такой братэрскай супольнасці, звязанай найлепшымі гадамі маладосці.

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### КАЗАХСТАН. Толькі добрыя навіны!

Міністэрства інфармацыі і камунікацый Казахстана рыхтуе «спецпраект па абмежаванні негатыўнага кантэнту ў СМІ». Да такога кантэнту аднясуць усе навіны аб гвалце, забойствах, суіцыдах. Такім чынам ведамства падтрымала заклік Кангрэса моладзі Казахстана (мясцовых аналаг БРСМ), які прапанаваў абмежаваць долю «чорнага» кантэнту ў навінах да 30 працэнтаў. Сваю ідэю Кангрэс матывуе так: «Адкрыйце любы партал — там 80 працэнтаў пра тое, як кагосьці забілі, пасадзілі або збілі. А дзеці ўжо ў школьным узросце пачынаюць цікавіцца жыццём у краіне. Якімі яны вырастуць пад уплывам такой інфармацыі? Яны стануць агрэсіўнымі песімістамі!» Ці будзе тычыцца новаўвядзенне крытыкі ўладаў або паведамленняў аб карупцыі, пакуль не зразумела. Між тым, у інтэрнэце ўжо жартуюць з нагоды квотаў на негатыў і прыгадваюць квоты дзяржаў на выкіды парніковых газаў. Краінам дазволена прадаваць лішкі нявыкарыстаных квотаў. Карыстальнікі задаюцца пытаннем: СМІ таксама атрымаюць права прадаваць нявыкарыстаную квоту на негатыў? Так ці інакш, праект насычэння казахскіх СМІ (пакуль, праўда, толькі афіцыйных) пазітыўнымі навінамі пачнецца праз пару тыдняў.

**Паводле казахскай прэсы**

### ФРГ. Зашмат белых у гандболе

Федэрацыя гандбола Германіі (DHB) сутыкнулася з незвычайнай крытыкай. Кіраўніцтва DHB абвінавацілі ў засіллі ў нямецкай гандбольнай зборнай «белых твараў». Сапраўды, усе гульцы ў камандзе ФРГ — тыповыя еўрапейцы. На думку крытыкаў, кансервацыя сітуацыі можа прывесці да крызісу гандбола ў краіне. Логіка тут наступная: дзеці мігрантаў, якіх у краіне ўсё больш і больш, наўрад ці пойдуць у від спорту, дзе дамінуюць выключна белыя бландзіны. Не падабаецца крытыкам і тое, што ў рэкламе DHB шмат тэмаў, якія асацыююцца з каштоўнасцямі нямецкай традыцыйнай культуры, такіх, як павага, дысцыпліна, мужнасць і гэтак далей. Федэрацыя з такімі тэзісамі не згодна. Па словах яе кіраўніка, па-першае, гандбол у любым выпадку будзе ўспрымацца як гульня еўрапейцаў, якія яе і прыдумалі. Па-другое, выразная ідэнтыфікацыя гульцоў зборнай з краінай і нацыяй — гэта вялікі поспех для трэнера. Такі калектыў больш матываваны на перамогу. Зрэшты, кіраўніцтва DHB паабяцала на працягу пару гадоў прыняць крокі, якія выпраўяць цяперашняе становішча.

**Паводле нямецкай прэсы**

### ВЯЛІКАБРЫТАНІЯ. Прыгоды помніка Тэтчэр

Нарэшце вызначыўся лёс бронзавай статуі Маргарэт Тэтчэр — брытанскай кансерватыўнай прэм'ер-міністаркі 1979–1990 гадоў. Наогул, ідэя помніка нарадзілася адразу пасля смерці Жалезнай лэдзі ў 2013 годзе. Таварыства аматараў гісторыі сабрала 300 тысяч фунтаў і замовіла скульптуру-манумент. Першапачаткова Тэтчэр планавалі паставіць у Лондане перад будынкам парламента побач з помнікам Чэрчылю. Але тут паўсталі праблемы. Фігура Тэтчэр вельмі непапулярная сярод шматлікіх брытанцаў. Ёй не могуць прабачыць ліберальны эканамічны курс, які разбурыў дзяржсектар і спарадзіў масавае беспрацоўе. Таму яшчэ задоўга да адкрыцця помніка ў сеціве з'явілася вельмі шмат заклікаў разбурыць манумент. Усведамляючы пагрозу вандалаў, мэрыя Лондана планавала паставіць статую ў нейкі шкляны куб, а сам п'едэстал зрабіць такім высокім, каб вандалы не дабраліся да статуі. Аднак такая канструкцыя апынулася не па кішэні ратушы. Урэшце прытуліць помнік пагадзіўся муніцыпалітэт горад Грэнтэм, дзе і нарадзілася Тэтчэр. Мэр Грэнтэма лічыць, што статуя павысіць турыстычную прывабнасць горада.

**Паводле брытанскай прэсы**

### ГРУЗІЯ. Усю ўладу альтэрнатыўнаму ўраду!

Экс-прэзідэнт Грузіі Міхаіл Саакашвілі, завочна асуджаны на радзіме на тры і шэсць гадоў пазбаўлення волі за карупцыю і перавышэнне службовых паўнамоцтваў, заявіў пра стварэнне «альтэрнатыўных органаў улады». Пачаць ён вырашыў з Аджарскай аўтаноміі, дзе са сваіх прыхільнікаў утварыў альтэрнатыўны ўрад. Паміж імі нават размеркавалі міністэрскія пасады. Па словах Саакашвілі, паралельныя структуры ўлады павінны рыхтаваць яго трыумфальнае вяртанне на радзіму. Афіцыйныя ўлады пакуль абмежаваліся каментарамі. Віцэ-спікер парламента ад кіруючай «Грузінскай мары» нагадаў, што ў пачатку 1990-х гадоў апазіцыя ўжо фармавала ў краіне альтэрнатыўныя органы. Гаворка пра Нацыянальны кангрэс, які выступіў супраць тагачаснага прэзідэнта Звіада Гамсахурдзія. Супрацьстаянне скончылася грамадзянскай вайной і забойствам гаранта. Так ці інакш, пакуль лёс новага ўрада гэтага праекта незразумелы. У нядзелю на сустрэчы з грузінскай дыяспарай у Бельгіі Саакашвілі прызнаў, што падрыхтоўка яго вяртання запатрабуе шмат месяцаў.

**Паводле грузінскай прэсы**



Фота www.slate.fr

**Міністр унутраных спраў Італіі Матэа Сальвіні падчас ток-шоў па тэлебачанні**

# Камедыя «дэль артэ» або феадальная разборка

Алег НОВІКАЎ

**«Беспрэцэдэнтна» — такое слова найбольш часта прысутнічае ў каментарах, прысвечаных цяперашняму франка-італьянскаму крызісу. Яшчэ ніколі ў гісторыі адна краіна ЕС не адклікала свайго пасла з краіны, якая таксама з'яўляецца сябрам аб'яднання. Чаго чакаць далей?**

Практычна ўсе аглядальнікі, калі апісваюць цяперашні канфлікт Рыма і Парыжа, узгадваюць падзеі лета 1940 года. Тады 10 чэрвеня Мусаліні загадаў войску перайсці межы Францыі. Хаця італьянскія поспехі былі мінімальныя (яны страцілі 631 чалавека, у той час як французы — толькі 40), пераможцам кампаніі праз капітуляцыю Францыі аказалася Італія. У выніку апошняя акупавала частку паўднёва-ўсходняй Францыі, якую давялося вярнуць у 1944 годзе. Калі не лічыць супрацьстаяння футбольных зборных, з таго часу італьянцы і французы жылі ў стане амаль абсалютнай гармоніі.

Пакуль днямі не здарылася экстраардынарная рэч. 8 лютага Францыя адклікала амбасадара з Італіі — такое рашэнне прыняў МЗС Францыі пасля сустрэчы віцэ-прэм'ера Італіі Луіджы дзі Маё з лідарамі французскага руху «жоўтых камізэлек». Францыя настойвае на тым, што «на працягу некалькіх месяцаў застаецца аб'ектам абвінавачванняў, беспадстаўных нападаў і абуральных рэмарак» з боку італьянскіх уладаў.

Натуральна, гэта толькі вяршыня айсбергу. Няма паміж краінамі адзінства па пытаннях міграцыі і адказнасці за наступствы вайны ў Лівіі. Ёсць розныя погляды на схему фінансавання звышхуткай і, адпаведна, дарагой чыгуначнай лініі Турын—Ліён. Спрыяў casus belli і незвычайны скандал вакол спадчыны Леанарда да Вінчы. У кастрычніку Луўр збіраецца шырока адсвяткаваць 500-ю гадавіну славутага мастака і арганізуе вялікую выставу яго твораў. Аднак італьянскае міністэрства культуры бачыць у гэтым хітрую спробу зрабіць Леанарда да Вінчы французам, і таму адмаўляецца пазычыць Парыжу яго карціны.

Чаго чакаць далей? Для даведкі: наступны крок пасля адклікання амбасадара — разрыў дыпламатычных адносінаў. Аднак у любым выпадку гэта шок: у Еўрасаюзе звычайна падобныя рознагалоссі згладжваюцца келейна або падчас самітаў.

У пошуках адказу на згаданае вышэй пытанне далей за ўсіх пайшлі брытанскія таблоіды (яны звычайна падтрымліваюць Brexit і любяць троліць еўрапейскі праект). «Еўропа ў стане вайны. Італія і Францыя пачынаюць феадальную разборку», — шакуе загалоўкам выданне «Express». Такі прагноз — натуральна, перабор, хаця варта нагадаць: італьянскія нацыяналісты сапраўды лічаць працэс уніфікацыі Італіі няпоўным без далучэння да краіны ў тым ліку Корсікі і Ніцы.

Частка прэсы шукае прычыны канфлікту і, адпаведна, формулу яго вырашэння, у асабістых якасцях Макрона. «Тут прысутнічае нешта псіхічнае. З пачаткам сыходу Ангелы Меркель з публічнай сферы Макрон прэзентаваў сябе як новага лідара еўрапейскага неалібералізму. Аднак пратэсты «жоўтых камізэлек» затармазілі яго ўздым», піша «Independent». Такім чынам, можна спадзявацца, што хутка Макрон возьме сябе ў рукі і паспрабуе шукаць дыялогу з Рымам.

Праўда, пытанне, ці пойдуць італьянцы насустрач? Папулярная думка пра тое, што канфлікт будзе працяглым, бо антымакронаўскі слэнг — ледзь не цэмент, на якім трымаецца кааліцыя папулістаў у Італіі. Асоба Макрона з'яўляецца для іх інкарнацыяй ненавіснага лібералізму, што дапамагае канчаткова не пасварыцца.

Тое ж самае і з Макронам, які спрабуе за кошт канфрантацыі з італьянскімі папулістамі рэанімаваць сваіх прыхільнікаў перад травеньскімі выбарамі ў Еўрапарламент. Сваім учынкам прэзідэнт Францыі як бы дэманструе, што застаецца паслядоўным прыхільнікам ліберальнага бачання Еўропы. Сапраўды, прынцыповая пазіцыя Макрона спадабалася яго электарату.

Брытанская газета «The Guardian» заклікае не панікаваць. На думку яе калумніста, цяперашні канфлікт не будзе доўгім, ён, хутчэй, адносіцца да жанру «камедыі дэль артэ» — «камедыі масак». Рэмаркі, якімі абменьваюцца абодва бакі, не ўяўляюць пагрозу для еўрапейскага дома. Аднак аўтара непакоіць тое, што часткай унутранай палітыкай краінаў ЕС становіцца мова нянавісці. Такая рыторыка, мяркуе, можа палярызаваць грамадства і ў выніку справакаваць крызісы накшталт Brexit.

Абсалютна люстэркава глядзіць на сітуацыю «Politico», якая бачыць у франка-італьянскім крызісе пазітыў для ЕС. На думку выдання, канфлікт прымушае абодва бакі думаць у еўрапейскім вымярэнні. Па факце пераможцу дуэлі вызначаць вынікі майскіх выбараў у Еўрапарламент, які на вачах становіцца вельмі аўтарытэтным інстытутам.

Нарэшце, самы незвычайны прагноз выдаў на канале «France24» палітолаг Паола Фельтрын. Ён лічыць, што фармальнага прымірэння паміж Францыяй і Італіяй доўгі час не будзе, а магчыма, не будзе ўжо ніколі, паколькі фармат адносінаў паміж краінамі будзе іншым. Па яго словах, недыпламатычны тон кантактаў паміж палітыкамі і дыпламатамі становіцца глабальным трэндам. Дастаткова паглядзець, як паводзіць сабе той жа Трамп, каб зразумець — дэфіцыт этыкету і брутальная лексіка становяцца ўніверсальнай характарыстыкай новай хвалі палітыкі.

Застаецца спадзявацца, што ўзаемныя абразамі ўсё і абмяжуецца.

# Веймар наша ўсё!

Алег НОВІКАЎ

**Цяжка прайсці міма сотай гадавіны заснавання Веймарскай рэспублікі, урокі якой у свой час праігнаравалі маладыя дэмакратыі экс-СССР.**


Фота www.e-news.su

«Вось у часы Шушкевіча ў нас быў сапраўдны Веймар», — даводзілася чуць ад тых, хто настальгуе па 1990-х гадах. Знаёмыя расіяне кажуць пра Веймар за часамі Ельцына. Нават некаторыя ўкраінцы апошнім часам называюць сітуацыю ва Украіне да 2014-га сваёй версіяй Веймарскай рэспублікі.

Няцяжка зразумець, адкуль такая дзіўная сімпатыя да Веймару (папулярная назва рэжыму, які панаваў у Германіі з 1919 па 1933 гады). Пад азначэннем «Веймарская рэспубліка» разумеюць грамадска-палітычны лад, які папярэднічаў прыходу вайны або аўтарытарызму. Лічыцца, што такому ладу ўласцівыя палітычны і культурны плюралізм, сумленная электаральная канкурэнцыя, дух прадпрымальніцтва і сацыяльных эксперыментаў. Пасля нядаўняга рэлізу папулярнага серыяла «Берлін — Вавілон», дзе зашмат эротыкі, сінонімам Веймара стала яшчэ і сексуальная свабода. Усе пералічаныя тэмы сапраўды больш-менш былі атрыбутыкай нашых рэалій 1990-х гадоў, што і прымушае міжволі называць той час «наш Веймар».

На самай справе, такая з'ява, як Веймарская рэспубліка, была значна больш складанай. Дастаткова згадаць эканамічны крызіс пачатку 1920-х гадоў і яго наступствы ў выглядзе інфляцыі. Сярэдні ўзровень інфляцыі на той час складаў каля 25% на дзень. За тры дні цэны маглі вырасці ўдвая, а за месяц — у тысячу разоў. Фактычна, эканамічная сітуацыя ў даваеннай Германіі была стабільная толькі ў 1924–1929 гадах.

Хаця сто гадоў таму хапала і цікавых рэчаў. Забаўна выглядаў сам гарадскі тэатр у Веймары, дзе 6 лютага 1919 года пачаўся Устаноўчы сход, які павінен быў прыняць Канстытуцыю новай нямецкай дзяржавы. Пад пасяджэнні камітэтаў аддалі залу для заняткаў балетам, а фракцыя эсдэкаў засядала ў пакоі, дзе звычайна праводзіў рэпетыцыі тэатральны хор. Міністрам пашанцавала не так моцна: Кабмін пісаў свае цыркуляры ў гардэробе. З іншага боку, дырэкцыя Нацбанку ўвогуле павінна была задаволіцца крэсламі ў партэры.

Падобная на анекдот і прычына, чаму дэпутаты сабраліся менавіта ў дастаткова правінцыйным Веймары (сёння яго насельніцтва складае каля 60 тысяч чалавек, а тады было значна меншым). Арганізатарам трэба было знайсці на карце Германіі месца, якое б задаволіла ўсіх. Задача была надзвычай складаная. Берлін адразу адпадаў, паколькі быў сімвалам прускага мілітарызму, да таго ж там адчуваліся наступствы камуністычнага студзеньскага паўстання. Правядзенне сходу на Поўдні выглядала як саступка мясцовым сепаратыстам. Варыянты на Захадзе, напрыклад, у Франкфурце, былі небяспечныя праз суседства з французскім войскам.

Тапаграфічным кансенсусам аказаўся маленькі Веймар у Цюрынгіі. Дарэчы, у свой час яго рэзідэнтамі былі Шылер і Гётэ, што павінна было спрыяць новаму, немілітарысцкаму іміджу Германіі. Лічылася, што гэта можа паўплываць на лідараў Антанты, якія збіраліся выставіць (і хутка выставілі) немцам шалёны рахунак за Першую сусветную вайну.

Увогуле, уся Канстытуцыя аказалася напісаная пад дыктоўку кааліцыі эсдэкаў і леваліберальнай Дэмакратычнай партыі, што мела дэпутацкую большасць. Левыя радыкалы, якія патрабавалі рэспубліку саветаў, і правыя, якія выступалі за жорсткі цэнтралізм, зрабіліся статыстамі. Па выніках сходу Германія стала дэмакратычнай федэральнай дзяржавай, прычым з моцнымі сацыяльнымі гарантыямі для пралетарыяту. Падаецца, вось яна — ідэальная формула развіцця і прагрэсу. Аднак нешта пайшло не так. Праз 14 гадоў Гітлер пачаў разбураць асновы веймарскай мадэлі — прычым, на радасць абсалютнай большасці немцаў. Што ж пайшло не так?

Натуральна, сваю ролю ў краху Веймара адыграла калектыўнае пачуццё нацыянальнага прыніжэння, выкліканае вынікамі Версальскай канферэнцыі. У вачах патрыётаў веймарскі рэжым, які часткова пагадзіўся з Версальскімі дамовамі, стаў сімвалам здрады. Наўрад ці ад аўтараў Веймара таксама залежала сусветная эканамічная кан'юнктура: глабальны крызіс 1929-га падарваў давер да дэмакратыі. Вядома, што перманентная эканамічная нестабільнасць прымушае людзей думаць, быццам усялякі іншы рэжым будзе лепшым за цяперашні.

Аднак часткова віна ляжыць і на бацьках Веймару. Закладзеныя ў закон прынцыпы кампрамісу і кансенсуснай палітыкі сталі бомбай запаволенага дзеяння. У краіне пастаянна змяняліся кабінеты і ўрады, што перашкаджала праводзіць нейкія рэформы да канца. Таму ў грамадстве паступова паўстала замова на радыкалаў, якія могуць рэалізаваць праграму аднаўлення.

Памяркоўныя палітыкі, якія назіралі гэты трэнд, пачалі ўключаць радыкалаў або палітыкаў моцнай рукі ў свае тактычныя схемы, запрашалі іх у якасці партнёраў і рабілі ім рэкламу. Напрыклад, без кааліцыі з кансерватыўнымі партыямі Гітлер не стаў бы канцлерам. У выніку ўчорашнія маргіналы перасталі быць маргіналамі і самі пачалі гуляць па сваіх правілах.

Ёсць думка, што крыніца краху Веймара — гэта дазвол і магчымасць праводзіць рэферэндумы. Тыя ж нацысты вельмі лёгка карысталіся гэтым інструментам, каб гучна заявіць пра сябе. Так, рэйтынгі нацыянал-сацыялістаў моцна выраслі пасля таго, як у 1929 годзе яны правялі моцную агітацыйную кампанію напярэдадні рэферэндуму па праблеме рэпарацый. Практыка рэферэндумаў, якая існавала напачатку будаўніцтва нацысцкай дыктатуры, дазволіла нацыстам вельмі хутка стварыць сабе вобраз абаронцаў народных інтарэсаў.

Цяжка сказаць, ці сапраўды бацькі постсавецкай дэмакратыі дапусцілі адну з памылак, якую зрабілі ў свой час бацькі Веймарскай рэспублікі. Магчыма, Веймар тут не пры чым. Кажуць, што ва ўсім вінаваты слабы розум тагачаснага старога прэзідэнта Паўля Гіндэнбурга, якому ў 1933-м было 87 гадоў. Пішуць, што ён нават не заўважыў, як прызначыў Гітлера канцлерам.

Так ці інакш, але нашы 1990-я гады заўсёды будуць нашым Веймарам.

## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Пётр Парашэнка



Прэзідэнта Украіны абвінавацілі ў спробах стварэння культу асобы. Усё з-за незвычайнай гісторыі з хлопчыкам Барыспалю, якую распавяла ў сеціве віцэ-спікер Ірына Герашчанка.

Згодна з ёй, калі ўкраінскі прэзідэнт праязджаў праз Барыспаль, ён пачуў дзіцячы плач і загадаў картэжу спыніцца. Плакаў маленькі хлопчык, які хацеў сфатаграфавацца з гарантам. Пётр Аляксеевіч рэалізаваў мары дзіцяці.

Гісторыя зайграла новымі фарбамі, паколькі, як высветлілася, яна апынулася надзвычай падобнай да сюжэтаў расійскай піяр-машыны. Кіраўнік РФ раней трапіў у дакладна такую ж сітуацыю. Толькі замест хлопчыка была дзяўчынка, якая расплакалася, бо жадала сфатаграфавацца з кіраўніком Расіі. Пуцін таксама не вытрымаў дзіцячых слёзаў — спыніў картэж і гэтак жа пагутарыў з дзіцём.

Тое, што Парашэнка капіруе стыль Пуціна, шмат каго вельмі непакоіць. Зрэшты, ва ўкраінскіх піяршчыкаў ёсць і свае арыгінальныя захады. Лічыцца, што менавіта яны зарэгістравалі кандыдатам у прэзідэнты нейкага Юрыя Віктаравіча Цімашэнку. У выбарчым бюлетэні ён будзе фігураваць як «Цімашэнка Ю.В.» — як і лідарка апазіцыі Юлія Уладзіміраўна Цімашэнка. Відавочна, што многія прыхільнікі Юліі заблытаюцца і выпадкова прагаласуюць за Юрыя.

На пасаду прэзідэнта Украіны балатуюцца 44 чалавекі. З-за такога багацця кандыдатаў бюлетэнь на выбарах прэзідэнта будзе метровай даўжыні.

### Абдэль Азіз Бутэфліка



81-гадовы прэзідэнт Алжыра абвясціў пра намер пятым разам стаць кіраўніком дзяржавы. Гэту пасаду ён займае з далёкага 1999 года.

Навіна здзівіла многіх алжырцаў хаця б таму, што апошнім разам у навінах згадвалі пра прэзідэнта тры месяцы таму. За гэты час з'явілася шмат чутак наконт крытычнага стану здароўя гаранта. Яшчэ ў 2013 годзе Бутэфліка перанёс інсульт і быў вымушаны два з паловай месяцы правесці на лячэнні ў парыжскім ваенным шпіталі. Пасля хваробы агульны стан яго здароўя моцна пагоршыўся. З тых часоў ён перасоўваецца выключна ў інвалідным вазку. Магчыма, таму паведамленне пра яго прэзідэнцкія амбіцыі агучыў прэм'ер.

Што да вынікаў галасавання — іх прадказаць няцяжка. У Алжыры дзейнічае досыць эфектыўная прэзідэнцкая вертыкаль і лаяльны да ўлады грамадскі сектар. Акрамя таго, на Захадзе падтрымліваюць цяперашні алжырскі рэжым, паколькі альтэрнатывай яму выступаюць ісламісты. Ніхто не аспрэчыў, напрыклад, што на апошніх выбарах прэзідэнт Алжыра атрымаў фантастычныя 81 працэнт падтрымкі.

Так што Бутэфліку можна ўжо зараз павіншаваць з чарговай кадэнцыяй. Праўда, сумнеўна, што менавіта ён будзе кіраваць краінай. Калі верыць прэсе, праблемы са здароўем не дазваляюць яму ўжо нават нешта казаць.

### Ёрам ван Клаверэн



Нідэрландскі палітык, экс-актывіст правапапулісцкай Партыі Свабоды, якая зрабіла сябе імя на тэме ісламскай пагрозы, прапанаваў свой арыгінальны варыянт вырашэння праблемы інтэграцыі мусульман у нідэрландскае грамадства.

Паводле яго, вырашыць праблему мусульман можа толькі той, хто сам стаў мусульманінам. Словы Ёрама ван Клаверэна не разышліся са справай. Тры месяцы таму ён выйшаў з шэрагаў пратэстантаў і прыняў іслам. Цяпер палітык рэгулярна ходзіць у мячэць, штудзіруе Каран і адмовіўся ад ужывання алкаголю.

Кіраўніцтва Партыі Свабоды ўспрыняла выхадку свайго былога сябра як поўху роднай партыі. У тым ліку таму, што ў свой час у ім бачылі нават будучага фюрэра нідэрландскіх ісламафобаў. Герт Вільдэрс, лідар партыі, параўнаў учынак Ёрама ван Клаверэна з працай вегетарыянца на бойні.

А вось ліберальныя і левыя палітструктуры лічаць, што эксперымент заслугоўвае ўвагі. У гэтых колах агучваецца ідэя бліжэйшым часам арганізаваць Ёраму хадж у Меку, што павінна ўзмацніць яго аўтарытэт сярод мусульманскай грамады.

Між тым, паліцыя думае наконт таго, каб надаць палітыку персанальную ахову — правыя радыкалы ўжо пачалі яму пагражаць.

# «Старажытнарускія» эцюды

Алесь КІРКЕВІЧ

**Асновай для імперскіх прэтэнзіяў Расіі здаўна быў міф пра Старажытную Русь як агульную калыску саміх рускіх, беларусаў ды ўкраінцаў. Спакон вякоў, маўляў, нашы народы жылі разам, маючы супольны лёс, а любая спроба іх раз'яднаць — «злачынства» і «трагедыя»...**

Час ідзе, змяняецца таксама і разуменне Русі. Мы ведаем пра Полацак як сапраўдную калыску нашай дзяржаўнасці, ведаем пра канфлікты нашых князёў з кіеўскімі і наўгародскімі, трагічную гісторыю Рагнеды ды іншае. Пры гэтым ідэалагічныя штампы, датычныя ўсяго «старажытнарускага», жывуць і сёння.

Каб разабрацца і хоць крыху разматаць клубок міфаў, якія стагоддзямі накручваліся вакол паняцця «Русь», мы звярнуліся да гісторыка-медыевіста прафесара Генадзя Семенчука з Гродна. Лекцыя спадара Генадзя атрымалася даволі нефармальнай, лёгкай і меладычнай, таму і падаем яе ў форме афарызмаў або эцюдаў.



**Генадзь Семенчук.** Фота аўтара

## Гарадзенскі летапіс

Калі мы цікавімся перыядам Русі, варажскім перыядам, то карыстаемся, на жаль, не сваімі крыніцамі. Гэта першасная і вялікая праблема, бяда. Мы чытаем летапісы, напісаныя не ў нас, але ў Кіеве, Ноўгарадзе, Пскове, Галічы, Суздалі і гэтак далей. Мы пакуль не знайшлі (а можа і згубілі назаўжды) нашы полацкія, смаленскія, турава-пінскія, берасцейскія, гарадзенскія летапісы...

Тое, што ў Горадні вялося летапісанне, — для мяне факт бясспрэчны, бо летапісы пісаліся ва ўсіх цэнтрах княстваў. Падобным інтэлектуальным цэнтрам у нас была Барыса-Глебская царква з манастыром пры ёй. Цікава, што на сценах царквы захаваліся літаркі на плінфе, што ўжо кажа пра пісьменнасць мясцовых людзей. А Гарадзенскі летапіс, хто ведае, можа яшчэ пашанцуе знайсці некаму з нас.

## Унікальны Усяслаў Полацкі

Напрыклад, бярэм Наўгародскі летапіс, які захаваўся ў копіі XV стагоддзя. На 600 з нечым старонак пра Полацак усяго каля 30 згадак: пяць на часы Рагнеды, адна пра Брачыслава, сем пра Усяслава... У асноўным пішуць негатыў. Яно і не дзіўна, бо спачатку мы іх палілі і рабавалі, пасля — яны нас. Таму, калі бярэм такі летапіс і пачынаем яму верыць, то апісваем сваю гісторыю вачыма суседа. Яна заўсёды аднабаковая.

Паводле суседскіх летапісаў, наш герой — заўсёды шкоднік, бо не хацеў жыць у адзінай Старажытнай Русі, нападаў на ўсіх. Вось яны і пісалі, каб усе навокал нашага героя баяліся, плявалі на яго, лічылі ворагам. Яскравы прыклад пра Усяслава Полацкага, якога летапісец называе «Чарадзеем», «Ваўком» і гэтак далей, бо той нарадзіўся з мяшэчкам на галаве, а таму нібыта быў схільны да крывапраліцця... А мы, замест таго, каб зрабіць яго добрым вампірам, верым кіеўскаму летапісцу, што ён вампір злы: «Ай-ай-ай, Ноўгарад спаліў, ну як нармальны чалавек мог такое зрабіць?!»

Гісторыя Усяслава Полацкага наогул унікальная: гэта быў адзіны кіеўскі князь на той час, які не паходзіў з галіны Яраславічаў. Адзіны выпадак за 300–400 гадоў! Княжыў ён менш за год, але ў летапісах пра гэта наогул нічога, апроч абразаў: баязлівец, чарадзей, уцёк, захапіў уладу незаконна... Але тады, у 1068 годзе, кіеўскім князем магла стаць толькі неардынарная асоба, адна на сотню! І не быў ён ніякім чарадзеем (махлююць нам), а быў неверагодна здольным палітыкам і патрыётам.

## Русь — гэта не Расія

Нам казалі пра Старажытную Русь, старажытнарускую народнасць, мову, літаратуру... І гэта, паводле сталінскіх вучоных, была калыска, з якой у дзіўны спосаб, без бацькі і маці, нарадзіліся рускія, беларусы і ўкраінцы. Такі несексуальны шлях нараджэння дзяцей мяне заўсёды засмучваў... І гэтыя падыходы да сёння працуюць не толькі ў акадэмічнай навуцы, але і ў прапагандзе, выхаванні.

Стаўленне да тэмы Русі, дарэчы, вельмі добры маркёр, ці надалей ты «гома саветыкус», ці здаровы сучасны чалавек. Усе гэтыя «Союз нерушимый республик свободных, сплотила навеки Великая Русь...» ці «Мы беларусы з братняю Руссю...» — слухалі ж і нават не задумваліся, як кіргізаў і эстонцаў гэтая Русь «сплаціла». А пад Руссю маецца на ўвазе Расія — усё проста.

## Тры падыходы

Усе, хто цікавіцца Руссю, абіраюць адзін з трох метадалагічных падыходаў. Першы — марксісцка-сталінскі, нацыяналістычны ў негатыўным сэнсе. Другі — еўразійскі, імперыялістычны. Ну і трэці — нарманскі, еўрапейскі. Першыя два, насамрэч, вельмі падобныя. Народжаныя яны ў СССР і Царскай Расіі. Для іх характэрны размах і амбіцыі, а таксама жаданне вывесці славянаў на першы план. Ну, і абедзве тэорыі маюць кампенсатарскую функцыю: як толькі ў Расіі дрэнна, яны з шафы выцягваюць свае казкі пра Русь!

## Трагічны 1917-ты

Найбольшая трагедыя для расійскай інтэлігенцыі — гэта 1917 год, вынішчэнне і высяленне. І вось, калі гэтыя Салаўёвы і Трубяцкія апынуліся за мяжой, яны, каб сябе супакоіць, выдумлялі канцэпцыю пра Русь — адзіную прастору, якая спалучае ўсё лепшае з Захаду і Усходу, Поўначы і Поўдня.

Галоўны прадстаўнік еўразійскай плыні — Георгій Вярнадскі, геній. З гэтай жа кагорты і Леў Гумілёў. І вось яны шукалі, як патлумачыць Расію ад Курылаў да Варшавы. Адказам і стала еўразійства, дзе Русь — месца сілы, месца развіцця. Паводле іх, працэсы раннесярэднявечнай гісторыі тут — гэта прага князёў, славянізаваных праз жонак, брацца у Кітая, перапрацоўваць, аддаваць Візантыі, арабам і гэтак далей. І сёння гэта вельмі нагадвае мадэль Расійскай Федэрацыі. І Пуцін таксама гэтым еўразійствам карыстаецца, гэта і ёсць іх «специфический русский путь»... у нікуды.

Для іх усіх узорам была Русь часоў Уладзіміра, Рурыка, Алега, то бок ад Белага да Чорнага мора. А перыяд раздробленасці для іх — трагедыя. Яны не бачылі ані беларусаў, ані ўкраінцаў, не кажучы пра мардву, меру і іншых. Вельмі паважаю Салжаніцына, але і ён таксама стаяў на гэтых пазіцыях, і мы для яго таксама мала чым розніліся ад расійцаў.

## Маўродзін і ідэалогія

Найбольшы вораг для нас — гэта савецкая інтэрпрэтацыя Русі. Пры Сталіне навука наўпрост перастала быць навукай, ператварыўшыся ў дысцыпліну, якая абслугоўвае патрэбы ўлады. Быў такі гісторык-марксіст Пакроўскі, які спрабаваў разглядаць Расію як турму народаў. Дык яго расстралялі. І вучняў яго расстралялі. Ён пісаў як шчыры марксіст, не разумеючы, што пры ўладзе — усё тыя ж расійскія імперыялісты, якія падкарэктавалі рыторыку.

Сталін закруціў усё па-свойму: маўляў, каланіяльная палітыка імперыі заўжды была прагрэсіўнай для ўсіх нярускіх народаў. І прагрэс можа быць адно тады, калі ёсць адзіная маналітная дзяржава. І гісторыкі, якія займаліся тым перыядам (Грэкаў, Маўродзін), адразу напісалі, што Кіеўская Русь — славянская, руская дзяржава, якая несла прагрэс нярускім элементам (балтам, угра-фінам), бараніла іх, дала гарады, новыя тэхналогіі ў сельскай гаспадарцы і гэтак далей.

Тое, што завецца старажытнарускай мовай, літаратурай, дзяржавай — адзінай і моцнай — не існавала да часоў Сталіна. Ані пры цары, ані пры ранніх Саветах такі тэрмін не ўжываўся. Упершыню яго ўвёў у навуковы абарот ленінградскі гісторык Маўродзін. І ўсё гэта ўпісалася ў ідэалогію, дзе «савецкі чалавек» быў вянцом эвалюцыі нейкага міфічнага «старажытнарускага чалавека».

## Мода на антынарманізм

Антынарманізм, адмаўленне вядучай ролі вікінгаў у з'яўленні Русі, — не навуковая з'ява, а чыста ідэалагічная. Так было ад самага пачатку, ад спрэчкі Ламаносава ў часы Елізаветы з нямецкімі акадэмікамі, якія будавалі свае аргументы на логіцы і навуковых ведах. Антынарманізм заўжды ўздымаўся ў самыя цёмныя перыяды расійскай гісторыі: параза ў Крымскай вайне, у Руска-японскай, сталіншчына... Вось зараз, пры Пуціне, таксама ў модзе антынарманізм — нічога дзіўнага.

## Толькі вікінгі

Яшчэ пару гадоў таму наш Інстытут гісторыі пісаў, што вікінгі не мелі дачынення да паўстання Полацкага княства — дык пан Бог іх пакараў! Ужо другі год яны капаюць археалагічны комплекс на мяжы Полацкага і Шумілінскага раёнаў. Унікальны комплекс вікінгаў! І рыторыку ўжо змянілі: «Та-а-ак, мы вікінгі, толькі вікінгі! Не горшыя за Кіеў і Ноўгарад!» А варта было наўпрост капнуць глыбей, а не перапісваць сталінскія падручнікі.

## Партызанская пазіцыя

Нават у СССР сярод навукоўцаў існавала партызанская беларуска-ўкраінская пазіцыя, калі шэптам казалі: «Ведаеш, сапраўды, старажытнаруская народнасць — яе трэба прызнаваць — але яна не існавала як факт, яе прыдумалі...» Найбольш голасна шапталіся выдатнейшы ўкраінскі археолаг і гісторык Міхаіл Абральчэўскі і ягоны аднагодка і сябар, наш археолаг Георгій Штыхаў. Да іх далучаўся Леў Клейн. Вось такая кампанія: украінец, беларус і яўрэй. Яны мелі з гэтага праблемы, а Клейн нават адседзеў у турме...



Фантастычныя вобразы даўнейшай Русі ў карцінах Андрэя Шышкіна

# ад Генадзя Семенчука


Варагі вачыма мастака Мікалая Рэрыха


Пётр Любаеў. Старажытная Русь

Іх тэксты зачытваліся да дзірак, як самвыдат Салжаніцына. Так было з украінскамоўным «Паходжаннем Русі» Абральчэўскага або невялічкай брашуркай «Ажываюць сівыя стагоддзі» Штыхава. Апошні, ужо ў 1996 годзе на навуковым кангрэсе ў Ноўгарадзе наогул падняўся і заявіў, што раннюю гісторыю беларусаў, рускіх і ўкраінцаў варта разглядаць без гэтага спрэчнага паняцця — «Старажытная Русь».

Сапраўды ж, Русь можна і трэба разглядаць без ідэалагемаў еўразійцаў і сталіністаў. Можна — і трэба! Без адзінай мовы, літаратуры, калыскі... І як толькі мы так робім, за нашае мінулае ўжо не сорамна, яно прыносіць задавальненне і радасць. А калі філасофія, культура, гісторыя прыносіць радасць, значыць, яна праўдзівая. А калі нас адштурхоўвае, непрыемна, не сваё, ажно перакручвае — значыць гэта нешта не трывалае, не тое.

## Русь — вынік заваявання аўтахтонаў

Польскі медыевіст і эмігрант Генрык Пашкевіч найбольш выразна сфармуляваў нарманскую канцэпцыю ўсходнееўрапейскай гісторыі X–XIII стагоддзяў. Паводле яго, утварэнне дзяржавы Русь — вынік заваявання аўтахтонаў (славянаў, угра-фінаў, балтаў) нарманамі. Гэты час — перыяд бурапеністасці, не толькі войнаў і разбурэнняў, але і змешвання, абмену. Хтосьці ад кагосьці нешта браў, усе вучыліся жыць разам.

Індыкатарам ва ўсім гэтым стаў актыўны ўдзел у нашым жыцці нарманаў. Гэта важна: іх называлі не шведамі ці датчанамі, але нарманамі — паўночнымі людзьмі. На чале мог быць дацкі ці шведскі ярл, але мясцовых нашых з ім магло быць больш, чым яго землякоў. Апынуўшыся на берагах Нёмана, Дняпра, Заходняй Дзвіны, Волгі, нарманы ўжо мелі вопыт кантактаў з дзяржаўнымі ўтварэннямі тых жа англасаксаў.

## Вопыт адаптацыі і камунікацыі

Калі нарманы закладалі пад Ваўкавыскам гарадзішча Мураўельнік, яны закладалі базу з мэтай не рабаваць, але ўпарадкаваць жыццё. Лагічна, бо ўсіх пагвалціш, парэжаш, а як жыць далей? Яны прыйшлі падрыхтаваныя, узброеныя бачаннем, як будаваць бізнес, гандаль, кантакты. Іх мэтай быў Поўдзень — арабскі халіфат і яго срэбра, тыя самыя манеты (дырхемы), якія ў нас знаходзяць тысячамі. Ну і парча, канешне ж, якую даваў Канстанцінопаль, каб адкупіцца ад нападнікаў. Уявіце, сядзіш сабе пад Ваўкавыскам, захутаны ў візантыйскую парчу, дырхемы перабіраеш... Прыгажосць!

Навукоўцы заўважылі, што нарманы далёка не заўжды былі вышэй у культурным ці гаспадарчым узроўні за тых, да каго яны прыходзілі — славянаў, балтаў. Яны мелі наўпрост большы вопыт адаптацыі і камунікацыі — вопыт кантактаў. І мясцовым такія лідары былі патрэбныя, нарманы іх уцягвалі ў свае глабальныя праекты, каб разам ісці ў шырокі свет.

## З Поўначы — значыць русы

У 1127 годзе кіеўскі князь Мсціслаў Уладзіміравіч са сваімі халуямі пайшоў і знішчыў Полацак. Палонных полацкіх князёў не забіў, а выслаў у Візантыю. Праз пару гадоў тыя ўжо фігуравалі ў атрадзе русаў на службе ў кесара, баранілі Візантыю ад арабаў. Тыя, хто выжыў, за службу атрымалі волю ад імператара, вярнуліся і далей ваявалі за Полацак. Што тут важна? Для кіяўлян палачане былі іншымі, крывічамі, а вось для візантыйцаў усе, хто прыходзіў з Поўначы былі русамі! І гэта было нормай для таго часу.

Дарэчы, а навошта кіяўляне напалі на Полацак? Бо тамтэйшыя князі не хацелі ваяваць супраць полаўцаў. Сапраўды, а навошта ім былі тыя полаўцы? Дзе Полацак, а дзе полаўцы?.. І атрымліваецца роўна як сёння: «Ах, вы нас не слухаецеся, яшчэ і Абхазію не прызнаеце, давайце мы вам падатковы манеўр зробім!..» Вось лепш бы князя нашага ў Візантыю выслалі! Самага якаснага рускага.

## Міф славянізацыі

Не было ніякай хуткай славянізацыі нарманаў. Адзінкі, якія рабіліся князямі, былі аддаленыя ад штодзённасці і звычаяў большасці людзей, якія пад імі жылі. У IX–XI стагоддзях не існавала ніякай рускай нацыі, народнасці, супольнасці. Нарманы з'явіліся на тэрыторыі, дзе не існавала сувязяў паміж тымі групамі народаў, якія мы называем славянскімі.

У кожным рэгіёне яны сутыкаліся з нечым новым і іншым. У Старой Ладазе і Ноўгарадзе — з угра-фінамі, ільменьскімі славенамі. У Полацку і Віцебску — з крывічамі. Тут, у Панямонні — з балтамі... Кожны раз было нешта іншае. Але ніколі нідзе яны не сутыкаліся з міфічнай, прыдуманай агульнай славянскай масай. Таму і Русь, створаная нарманамі, ад пачатку была штучным і нетрывалым кангламератам розных супольнасцяў.

## Русь — гэта вікінгі

Не шукайце этымалогіі слова «Русь» у нейкім адным кантэксце. У розныя часы, у розных месцах слова мела розныя значэнні. Галоўнае, што гэта ніякі не этнонім, не азнака народу. У фінскім фальклоры захавалася гэтае слова. «Руотсі» — гэта «марскія браты», тыя, хто прыходзіў з мора з рознымі цікавымі прапановамі, накшталт: «Вы нам дзевак і скуры, а мы вам дапаможам!».

Такім чынам, «руотсі», Русь — гэта вікінгі. Гэта сацыяльны тэрмін, азнака для найбольш актыўных і бессаромных гандляроў і паляўнічых за ўсходнім срэбрам і кабетамі. Таксама пазней называлі і княжацкую дружыну, калі Уладзімір ужо ўмацаваўся ў Кіеве, ажаніўшыся з Рагнедай.

## Русь — гэта канфесіянім

А яшчэ Русь — гэта канфесіянім. У Візантыі памяталі, што дамовы заўжды падпісвалі з русамі, таму пасля хросту Уладзіміра адзначылі сабе, што з'явілася новая «руская правінцыя». Усе тэрыторыі на паўночным усходзе, якія пасля прымалі праваслаўе, уваходзілі для візантыйцаў у гэтую «рускую правінцыю». Куды даходзіў уплыў Кіеўскай мітраполіі, незалежна ад таго, хто там жыў, — там і была Русь. Гэтак лічылі грэкі ў Канстанцінопалі, гэтак жа — грэчаскія манахі ў Кіеве.

***

Для нашых усходніх суседзяў распад Русі, а пасля ўтварэнне асобных этнасаў (рускіх, украінцаў і беларусаў) — заўжды быў трагедыяй. Таму сваім абавязкам яны лічылі і лічаць зноўку ўсё сабраць, склеіць. Але прычына таго, што мы — беларусы, не ў тым, што гэтую «старажытнарускую калыску» дрэнна трымалі на руках, яна ўпала і разбілася... Прычына ў няспынным працэсе кансалідацыі мясцовых этнакультурных супольнасцяў. У нашым выпадку гэта былі балты і славяне, у выпадку рускіх — угра-фіны і славяне, у выпадку ўкраінцаў — гуны, рэшткі скіфаў, фракійцаў, ілірыйцаў ды тыя ж славяне.

Барацьба канцэпцыяў, нашых бачанняў мінулага працягваецца. І беларусам трэба адваёўваць тут сваё месца, расчышчаць прастору для свайго варыянту. Інакш, не маючы бачання мінулага свайго, а не навязанага звонку, як мы можам прэтэндаваць на канцэпцыю будучыні?


Нарманы, сучасная рэканструкцыя

# БагатаДата

**Трыццаць гадоў першаму дазволенаму апазіцыйнаму мітынгу і дзень народзінаў Міколы Байкова. А яшчэ Дзень сацыяльнай справядлівасці ды Дзень роднай мовы. Іншыя даты на гэтым тыдні ў нашым аглядзе.**

## 16 лютага

80 гадоў з дня нараджэння Чэслава Немэна, польскага музыкі беларускага паходжання. Родам ён з вёскі Старыя Васілішкі Шчучынскага раёна. У доме, дзе нарадзіўся Немэн, цяпер працуе музей. Сапраўднае імя Немэна — Чэслаў Выдрыцкі. Псеўданім узяты ад ракі Нёман, на якой співак вырас. Пераехаў у Польшчу ў 1958 годзе. Атрымаў вядомасць у 1964 годзе, калі актрыса Марлен Дытрых запісала нямецкую версію яго песні «Ці памятаеш ты яшчэ мяне?» («Czy mnie jeszcze pamiętasz?»). Самая папулярная яго песня — «Дзіўны гэты свет» («Dziwny jest ten świat»).

90 гадоў таму ў Бабруйску з'явіўся на свет народны артыст, скрыпач, канцэртмайстар і саліст аркестра Тэатра оперы і балета Леў Гарэлік. Ён першым выканаў практычна ўсе скрыпічныя творы беларускіх кампазітараў-сучаснікаў.

95 гадоў таму пад Варшавай нарадзіўся беларускі скульптар Андрэй Заспіцкі. Пераехаў з бацькамі ў Мінск пасля далучэння Заходняй Беларусі да СССР. Сумесна з іншымі калегамі Заспіцкі — аўтар скульптураў на сталічным будынку па вуліцы Багдановіча, дзе месціцца Суворaўская вучэльня, фантана «Вянок» і помніка Янку Купалу ў аднайменным скверы, Адаму Міцкевічу на Гарадскім вале, рэльефу «Гусляр» на Нацыянальнай бібліятэцы, помніка Скарыну ў Полацку.



Чэслаў Выдрыцкі

## 17 лютага

100 гадоў з дня нараджэння Тамары Кулакоўскай. Вучоная ў галіне аграхіміі і глебазнаўства родам з Полацка. Была дырэктаркай Беларускага навукова-даследчага інстытута глебазнаўства і аграхіміі, а пазней кіравала Заходнім аддзяленнем Усесаюзнай акадэміі сельскагаспадарчых навук.

## 18 лютага

**1944.** У Маскве нарадзіўся Яўген Будзінас, беларускі пісьменнік, журналіст і бізнесовец. Выгадаваўся ў Вільні. Да літаратуры і журналістыкі працаваў слесарам, цесляром, настаўнікам. Стварыў у 1994 годзе ў Пухавіцкім раёне музей старажытных рамёстваў і тэхналогій «Дудуткі». Там непадалёк і пахаваны.



**Мітынг на стадыёне «Дынама», 1989 год.** Фота з архіва Вінцука Вячоркі



**Яўген Будзінас**

## 19 лютага

30 гадоў таму, у 1989 годзе, у гэты дзень на стадыёне «Дынама» ў Мінску адбыўся першы дазволены апазіцыйны мітынг. Яго арганізавалі Беларускі Народны Фронт і Канфедэрацыя беларускіх суполак («Талака», «Тутэйшыя» ды іншыя). Афіцыйна гэта быў «мітынг у падтрымку перабудовы». 40 тысяч чалавек сабраліся пераважна пад бел-чырвона-белымі сцягамі, а таксама пад савецкімі і сцягамі БССР.

**1864.** Нарадзіўся выдавец, палітычны і вайсковы дзеяч Вячаслаў Адамовіч-старэйшы. Браў удзел у стварэнні таемнай арганізацыі «Зялёны Дуб», якая каардынавала антыбальшавіцкі сялянскі супраціў і якой кіраваў ягоны сын Вячаслаў (атаман Дзяргач).

## 20 лютага

Сусветны дзень сацыяльнай справядлівасці. Імкненне да яе — адна з глабальных мэтаў ААН. Адзначаецца з 2009 года.

Дзень Герояў Нябеснай Сотні ва Украіне. Адзначаецца на знак памяці загінулых удзельнікаў Рэвалюцыі годнасці. У Нябеснай сотні і беларус Міхаіл Жызнеўскі, які быў забіты на Майдане адным з першых у студзені 2014 года.

## 21 лютага

Міжнародны дзень роднай мовы. Дата абраная на знак памяці аб падзеях гэтага дня ў 1952 годзе, калі ў горадзе Дака ў тагачасным Пакістане ад куляў паліцэйскіх загінулі студэнты, якія выйшлі на дэманстрацыю ў абарону сваёй роднай мовы — бенгалі. Цяпер Дака — сталіца Бангладэш.

Дзень работнікаў землеўпарадкавальнай і картаграфа-геадэзічнай службы Беларусі.

65-годдзе адзначае беларускі журналіст і публіцыст Аляксандр Уліцёнак, заснавальнік газеты «Свабодныя навіны плюс», лаўрэат Дзяржаўнай прэміі Беларусі за 1992 год у галіне журналістыкі за кнігу публіцыстыкі «Іншадумцы».

## 22 лютага

**1889.** У Бежацку, што ў Цвярской губерні, нарадзіўся Мікола Байкоў, беларускі мовазнаўца і літаратуразнаўца. Вучоны сакратар Навукова-тэрміналагічнай камісіі Наркамасветы БССР, Слоўнікавай камісіі Інбелкультуры, а потым Інстытуту мовазнаўства Акадэміі навук. Арыштоўваўся ДПУ. Падчас вайны супрацоўнічаў у Мінску з акупацыйнымі нямецкімі ўладамі — у Інспектарацe беларускіх школ і Выдавецтве школьных падручнікаў і літаратуры для моладзі. У 1944-м з'ехаў у Германію, там у 1946 годзе яго выкраў «Смерш» і перавёз у Савецкі Саюз, дзе яго асудзілі на 10 гадоў. Далейшы лёс невядомы.

**Падрыхтаваў Павел Кірылаў**



Новы Час
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.by

Выдаецца з сакавіка 2002 г. (c) Новы Час
Галоўны рэдактар **Колб Аксана Мікалаеўна**
Намеснік рэдактара **Пульша Сяргей Пятровіч**
Стыль-рэдактар **Пяроўская Святлана Віктараўна**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас: 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 263 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА** 220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234. Тэл. +375 17 268-52-81; +375 29 625-57-51, novychas@gmail.com; novychas.by Падпісны індэкс 63279.

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні ТАА «Ролл-Прынт». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. ЛП №02330/484 ад 16.02.2018. Замова №258

Падпісана да друку 15.02.2019. 8.00. Наклад 2000 асобнікаў. Аб'ём 3 друк. аркушы. Кошт свабодны.

Рэдакцыя можа друкаваць артыкулы дзеля палемікі, не падзяляючы пазіцыі аўтараў. Пры выкарыстанні матэрыялаў газеты спасылка на «Новы Час» абавязковая. Рукапісы рэдакцыя не вяртае і не рэцэнзуе мастацкія творы. Чытацкая пошта публікуецца паводле рэдакцыйных меркаванняў.